# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№ 37 (2335) 16 верасня 1993 г. Выдаецца з 1955 г. Цана 10 рублёў.


## ДЗЕНЬ БЕЛАРУСКАЙ ВАЙСКОВАЙ СЛАВЫ




**Нягледзячы на палітычны напал і розныя павевы, што суправаджалі падрыхтоўку да Дня беларускай вайсковай славы, 8 верасня свята адбылося, наладжанае БНФ, Беларускім згуртаваннем вайскоўцаў і шэрагам іншых арганізацый нацыянальна-патрыятычнага напрамку. Нагадаем, што дата гэтая выбрана ў памяць аб перамозе войскаў Вялікага Княства Літоўскага ў 1514 годзе пад Оршай над дружынамі Маскоўскага княства.**

**Другі раз сёлета адзначалася свята, і другі раз вакол падзеі бушавалі страсці. Спачатку Мінгарвыканкам вырашыў абмежаваць святкаванне Дня беларускай вайсковай славы канцэртам на плошчы Парыжскай Камуны ў Мінску, потым рашэнне аб забароне было падтрымана Заявай урада Рэспублікі Беларусь (тэкст Заявы змешчаны на 2-й стар.).**

**НА ЗДЫМКАХ: святкаванне Дня беларускай вайсковай славы 8 верасня 1993 года на плошчы перад оперным тэатрам.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**





**Масея СЯДНЁВА, таленавітага і слыннага беларускага паэта на эміграцыі, віншуюць з юбілеем супрацоўнікі Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН Беларусі, Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына", рэдакцыя газеты "Голас Радзімы" і жадаюць моцнага здароўя, творчага плёну, радасных сустрэч з родным краем.**


**(Артыкул Л. Савік "Я прыйду з далёкае чужыны...", прысвечаны М. Сяднёву, чытайце на 6—7-й стар.).**


### ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ "ГОЛАСУ РАДЗІМЫ"!

**Калі вы хочаце і надалей атрымліваць нашу газету, паклапаціцеся, калі ласка, аб падпісцы на "Голас Радзімы" на 1994 год. Падпісная кампанія пачалася ўжо з 1 верасня і працягнецца да сярэдзіны лістапада. Але не адкладвайце справу на "потым". Лепш зрабіць гэта загадзя.**

**Усе даныя аб "Голасе Радзімы" ёсць, вы іх знойдзеце і ў рэспубліканскім, і ў каталогу СНД. Кожны дзень вашага прамаруджвання — лішні крок да магчымасці страціць сувязь з "Голасам Радзімы", адзінай рэспубліканскай газетай, якая жыве і працуе як для замежных суайчыннікаў, так і для нашых суграмадзян.**

**Раілі б таксама тым, хто купляе газету "Голас Радзімы" ў кіёсках "Саюздруку", падпісацца на нашу газету. Гэта гарантыя таго, што "Голас Радзімы" заўсёды будзе з вамі.**

## "ГОЛАС РАДЗІМЫ" ЗНАХОДЗІЦЬ СВАІХ ЧЫТАЧОЎ!

Учора я зрабіў падшыўку некалькіх нумароў тыднёвіка "Голас Радзімы" і аднёс у чытальную залу гарадской бібліятэкі, каб да газеты мелі доступ усе, хто ўмее чытаць па-беларуску, цікавіцца Беларуссю, яе справамі ў пабудове незалежнай дзяржавы.

А сёння зайшоў у бібліятэку, каб высветліць у загадчыцы бібліятэкі спадарыні Лэсі Білоус, ці хто-небудзь з наведвальнікаў бібліятэкі знаёміўся з новым для бібліятэкі беларускім тыднёвікам. І як жа мне было радасна, калі я зайшоў у чытальную залу і ўбачыў за падшыўкай "Голасу Радзімы" сваю знаёмую беларуску спадарыню Марыю Буйніцкую, якая ўжо каля 30 гадоў жыве на Падоллі, але не забылася сваёй роднай мовы, якой навучылася ў роднай вёсцы на Гомельшчыне. Марыя Пятроўна працуе апаратарам раённага вузла сувязі, аб ёй вельмі прыязна адзываюцца каляжанкі па рабоце. Калі я спытаў у спадарыні Марыі пра яе ўражанні ад газеты, яна мне шчыра прызналася:

— Няма слоў! Даўно не трымала ў руках такой цікавай, неназойлівай газеты. Шкада, што не давялося з ёй пазнаёміцца раней, але зараз буду яе абавязкова чытаць, калі яна і надалей будзе з'яўляцца ў чытальнай зале бібліятэкі...

Я пакінуў спадарыню Марыю ў чытальнай зале за чытаннем матэрыяла Станіслава Цярохіна "Многія прыйдуць ад імені майго", а сам зайшоў у кабінет загадчыцы бібліятэкі спадарыні Лэсі Білоус, якая вельмі ветліва запрасіла мяне на кубачак кавы. Безумоўна, першае ж пытанне да яе было, ці зацікавіла газета "Голас Радзімы" чытачоў бібліятэкі.

— Першымі чытачамі тыднёвіка сталі мы самі, работнікі бібліятэкі. Беларуская мова вельмі зразумелая нам, украінцам, таму змаглі даць рады. Асабіста мне прыйшліся даспадобы матэрыялы спадарыні Таісы Бандарэнкі "Сакавік" пасля працяглай зімы", "У пошуках выйсця з крызісу", бачыла вашае, спадар Пятрусь, інтэрв"ю і допіс "Каму патрэбен такі "Славянскі кірмаш"?, шэраг іншых матэрыялаў. Так што напішыце ў газету, што тыднёвік будзе мець свайго чытача ў нашай бібліятэцы.

— Добра, спадарыня Лэся, а ці бралі ў рукі газету наведвальнікі бібліятэкі?

— Пойдзем у чытальную залу, спытаем дзяўчат, якія там працуюць. Сёння ў чытальнай зале чаргуюць Лена Краўчук і Аксана Грабажэй. На маё пытанне, ці прапануюць яны наведвальнікам "навінку сезона" — беларускі тыднёвік "Голас Радзімы", Аксана адказала станоўча: так, гаворым. А Алена дабавіла, што толькі сёння ўжо трое наведвальнікаў арталі падшыўку "Голасу Радзімы", далі станоўчыя ацэнкі газеце. А ў гэты час з падшыўкай тыднёвіка са сталіцы Беларусі ўсё яшчэ сядзела спадарыня Марыя Буйніцкая, так яе захапіў матэрыял аб езуітах на Беларусі...

Вось так нечакана тыднёвік "Голас Радзімы" ўваходзіць у жыццё не толькі беларусаў старадаўняга падольскага горада Ізяслаў, але і ўкраінцаў, яўрэяў, палякаў, рускіх, якія жывуць тут і якія, я веру ў гэта, абавязкова пасябруюць з тыднёвікам "Голас Радзімы".

Поспехаў дружнаму калектыву газеты, новых здабыткаў, цікавых субяседнікаў на старонках газеты!

Жыве Беларусь!

**Пятрусь КАПЧЫК.**

г. Ізяслаў, Украіна.

# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*НА ВЕРНАСЦЬ БАЦЬКАЎШЧЫНЕ*



**Прысягу на вернасць незалежнай Беларусі прынялі ў пачатку верасня курсанты мінскіх вышэйшых ваенных вучылішчаў — інжынернага і каманднага. Курсантаў павіншавалі Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслаў Шушкевіч і міністр абароны Павел Казлоўскі.**

*І ТУТ ПРАБЛЕМЫ*

## У ЖЫРОВІЦКАЙ ДУХОЎНАЙ СЕМІНАРЫІ

**Завяршыўся чарговы прыём студэнтаў у Мінскую духоўную семінарыю, размешчаную ў пасёлку Жыровічы, што недалёка ад Слоніма.**

**У адрозненне ад папярэдніх гадоў цяпер ствараецца толькі адна група слухачоў замест звычайных дзвюх. Тлумачыцца гэта вельмі вострым недахопам як падручнікаў, так і жылых плошчаў. Па гэтай прычыне ў семінарыі, дзе цяпер толькі на стацыянары займаецца больш за 200 студэнтаў, вымушаны пераабсталёўваць пад вучэбныя аўдыторыі нават склады для мэблі, а ў перапоўненым інтэрнаце ўстанавіць двух'ярусныя ложкі накшталт тых, што выкарыстоўваюцца ў салдацкіх казармах.**

*ПАЛЕССЕ*

## ПАСЛЯ ПАТОПУ

**У Столінскім раёне размыта 50 кіламетраў дарог, разбурана 8 тысяч дамоў, пад вадой апынуліся 65 тысяч гектараў пасеваў з несабраным ураджаем. З шасці гаспадарак давялося пераганяць буйную рагатую жывёлу і авечак. Многія сяляне вымушаны пазбавіцца свіней і кароў, таму што іх няма чым карміць. Такія горкія вынікі пасля паводкі на Палессі толькі ў адным раёне. А ўсяго ж страты, панесеныя толькі Брэсцкай вобласцю, складаюць прыкладна 100 мільярдаў рублёў. Гэта на сорак працэнтаў больш за даходную частку гадавога бюджэту ўсёй вобласці.**

*ІМІДЖ*

## НАПЕРАДЗЕ ЎСЁЙ СНД

**Па даных даследавання "Палітычныя і эканамічныя рызыкі міжнароднага бізнесу: Расія", Беларусь выйшла на першае месца ў СНД па велічыні ўнутранага валавога прадукту на душу насельніцтва, абагнаўшы Расію.**

**Акрамя таго, з пункту гледжання палітычнай, фінансавай і ўнутрыэканамічнай рызыкі, Беларусь выглядае сярод былых савецкіх рэспублік найбольш прыцягальна. Нас апярэджвае па ўзроўню стабільнасці толькі Эстонія. А за Беларуссю ідзе Расія, Украіна, Літва і Казахстан. Астатнія рэспублікі лічацца рэгіёнамі, у якія лепш наогул пакуль не ездзіць.**

## ЗАЯВА ЎРАДА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Апошнія падзеі паказваюць, што шэрагам грамадска-палітычных арганізацый, у прыватнасці БНФ—БЗВ, разгорнута ўзмоцненая кампанія па святкаванню даты 8 верасня як "дня беларускай ваеннай славы".

У гэтай сувязі ўрад лічыць неабходным заявіць наступнае. Усякія спробы прадставіць дзень 8 верасня як нацыянальнае свята супярэчаць рашэнню Вярхоўнага Савета рэспублікі, які зацвердзіў пералік свят і памятных дат, што адзначаюцца беларускім народам.

Па-другое, дастаткова няпэўнай выглядае сама трактоўка бітвы пад Оршай 8 верасня 1514 года. Гістарычныя факты сведчаць, што ў бітве пад Оршай удзельнічалі не толькі рускія і беларусы. Значыць, няма ніякіх падстаў выкарыстоўваць гэту дату для абвастрэння адносін паміж двума народамі. Не палітычная кан'юнктура, а навуковы аналіз і строгая аб'ектыўнасць павінны ляжаць у аснове ацэнак гэтай гістарычнай падзеі.

Падтрымліваючы рашэнне Мінскага гарвыканкома аб забароне святкавання гэтага мерапрыемства, урад Рэспублікі Беларусь рашуча адмяжоўваецца ад антырускіх і антырасійскіх лозунгаў, пад якімі спрабуюць адзначыць 8 верасня яго арганізатары. Урад заяўляе, што ніякія спробы і гістарычныя спекуляцыі не змогуць разбурыць брацкія сувязі беларускага і рускага народаў, азмрочыць далейшую перспектыву ў адносінах дзвюх славянскіх дзяржаў.

**САВЕТ МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ.**

*7 верасня 1993 года*
*г. Мінск.*

*"Сёння хацеў бы закрануць толькі адно пытанне, вельмі прыкрае, — нягожыя паводзіны нашых грамадзян за мяжой. Нават часам добрым словам успамінаеш колішнія парадкі, калі выязныя камісіі "фільтравалі" ад'язджанцаў. Трэба мець на ўвазе, што з 1 ліпеня ў Германіі дзейнічае суровы закон для эмігрантаў і грамадзян іншых краін. Адпушчаны велізарныя сродкі, каб вывозіць за межы ФРГ усялякіх авантурыстаў або тых, хто бадзяецца па гэтай краіне ў пошуках працы, не маючы дазволу на знаходжанне ў краіне. На жаль, і сярод нашай моладзі людзей з авантурным характарам дзеянняў развялося шмат. Распаўсюдзілася такая з'ява, як гублянне, а на самай справе продаж пашпартоў. Такіх — дзесяткі. Мы вымушаны ім даваць бясплатна пасведчанні на вяртанне. Другое. Шмат маладых дзяўчат, паехаўшы нелегальна праз Польшчу ў Бельгію, Галандыю, Францыю, Германію, аказваюцца ў самых непрыемных абставінах. Трапляюць у публічныя дамы, нажываюць непрыемнасці з паліцыяй... На тыдні — тры-чатыры такія выпадкі. Нашаму пасольству, зразумела, даводзіцца ўлагоджваць справы з уладамі, дапамагаць суграмадзянкам з дакументамі, забіраць іх з турмаў. Добра яшчэ, што нямецкі бок аплачвае ім праязныя білеты да Беларусі, бо ў нас не было б такіх грошай. Мы часам з консульскіх сродкаў мусім аплачваць — пра гэта цяжка гаварыць — труну, калі грамадзяніна Беларусі забіваюць на чужыне ці ён сам неяк гіне. Кошт адной труны, для даведкі, — восем тысяч марак, урны — чатыры тысячы, суткі ўтрымання ў моргу — 350 марак.*

*Асобная непрыемная з'ява — пакупнікі аўтамабіляў. Прыязджаюць, купляюць, напіваюцца, трапляюць у розныя гісторыі. А нам — клопат і сорам. Як тут даць рады? Можа, як-небудзь тут, дома, адміністрацыйна ўздзейнічаць. Пазбавіць на пэўны час права выязджаць ці нешта падобнае.*

*(З інтэрв'ю Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Рэспублікі Беларусь у Федэратыўнай Рэспубліцы Германіі П. САДОЎСКАГА карэспандэнту БелаПАН).*

*ВЯРТАННЕ ГІСТАРЫЧНАЙ СПАДЧЫНЫ*

## ДЛЯ НАВАГРУДСКАГА МУЗЕЯ

**Больш 9 тысяч археалагічных каштоўнасцей вернуты Інстытутам гісторыі матэрыяльнай культуры Расійскай АН навагрудскаму музею. Гэта калекцыя — вынік раскопак пад Навагрудкам, якія вяліся з 1968 па 1984 год ленінградскімі спецыялістамі, і амаль цалкам аказалася ў Санк-Пецярбургу.**

**Сёння музей Навагрудка, гістарычнай сталіцы Беларусі, што амаль не мела матэрыялаў аб сваім мінулым, падумвае аб стварэнні другой экспазіцыі.**

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

НА 13,5 ПРАЦЭНТА павялічылася за апошн я два гады захворванне на туберкулёз у Беларусі. А сярод падлеткаў — у 3,2 раза. Асноўную прычыну пашырэння гэтай хваробы, якая была ўжо зусім выкаранена, урачы бачаць у непаўнацэнным харчаванні людзей.

З 1 ВЕРАСНЯ Міністэрства сувязі і інфарматыкі Беларусі "парадавала" жыхароў рэспублікі новымі тарыфамі, якія павялічыліся ў 2—3 разы. За карыстанне тэлефонам цяпер штомесячна трэба плаціць 500 рублёў, за яго ўстаноўку — 14 тысяч рублёў. Пазваніць у Ізраіль 3 500 рублёў за 1 мінуту, у ЗША — 2 700. Просты ліст на тэрыторыі Беларусі — 10 рублёў.

УДЗЕЛЬНІКІ пасяджэння Савета міністраў замежных спраў краін Садружнасці, якое прайшло 24 жніўня ў Маскве, прынялі рашэнне падтрымаць вылучэнне кандыдатуры Беларусі ў якасці непастаяннага члена Савета Бяспекі ААН.

СТВАРЫЦЬ грамадзянскі камітэт за датэрміновыя выбары Вярхоўнага Савета і Саветаў усіх узроўняў. З такой ініцыятывай выступілі Аб"яднаная дэмакратычная партыя Беларусі і Беларускі народны фронт "Адраджэнне".

НАДЗВЫЧАЙНЫ і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь у Расійскай Федэрацыі Віктар Даніленка ўручыў групе ўдзельнікаў партызанскага руху на тэрыторыі нашай рэспублікі, якія цяпер пражываюць у Маскве, памятныя знакі "Партызан Беларусі".

САВЕТ МІНІСТРАЎ Рэспублікі Беларусь прыняў рашэнне выдаць на працягу 1995—2000 гадоў Беларускую Энцыклапедыю ў 18 тамах. (Беларуская Савецкая Энцыклапедыя налічвае 12 тамоў). Плануемы тыраж кожнага тома — 40 тысяч экземпляраў. (БелСЭ — 30 тысяч экземпляраў).

*МІЖНАРОДНАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ*

**"Праблемы аховы здароўя праз 7 гадоў пасля чарнобыльскай катастрофы" — міжнародная канферэнцыя па такой тэме адбылася ў Гомелі. Акрамя прадстаўнікоў Японіі, Шатландыі, Нідэрландаў, у яе рабоце прымалі ўдзел спецыялісты, якія займаюцца ў рэспубліцы анкалагічнымі і гематалагічнымі праблемамі, а таксама псіхолагі і псіхіятры.**

**Канферэнцыя з'явілася своеасаблівым вынікам беларуска-галандскага праекта абследавання стану здароўя насельніцтва Беларусі. Вынікі даследаванняў (а праводзіліся яны ў рамках гуманітарнай дапамогі) будуць выкарыстоўвацца ў арганізацыі сістэмы аховы здароўя Беларусі. Укараненне сучасных методык ацэнкі стану здароўя дазволіла выявіць нямала выпадкаў, калі псіхалагічны стрэс аказаў значна больш моцны ўплыў на стан здароўя людзей, чым сама радыеактыўнасць.**



**НА ЗДЫМКУ: у час канферэнцыі (злева направа) загадчык Гомельскай абласной псіхіятрычнай бальніцы Уладзімір ФІЛІПЕНКА, псіхолаг Акадэмічнага шпіталя горада Утрэхта (Нідэрланды) Й. ван дэн БОТ, кіраўнік навуковага праекта даследаванняў Й.М. ХАВЕНАР, навуковы супрацоўнік Леанід БУРЦА і дырэктар Цэнтра сацыялагічных даследаванняў (Гомель) Анатоль КАСЬЯНЕНКА.**

**Калектыў рэдакцыі газеты "Голас Радзімы" выказвае глыбокае спачуванне рэдактару газеты МАЦКЕВІЧУ Вацлаву Генрыхавічу ў сувязі з напаткаўшым яго горам — смерцю БАЦЬКІ.**

**Калектыў Беларускага таварыства "Радзіма" выказвае глыбокае спачуванне рэдактару газеты "Голас Радзімы" МАЦКЕВІЧУ В.Г. у сувязі са смерцю БАЦЬКІ.**

З ДАРЫЛАСЯ гэта не ў такія ўжо далёкія гады, але яшчэ тады, калі існаваў "магутны і непарушны" Саюз. Над Аляксандрам, студэнтам інстытута фізкультуры, актывістам маладзёжнага руху, навісла пагроза расстацца і з вышэйшай навучальнай установай, і з камсамольскім білетам. А ўся віна студэнта заключалася ў тым, што ён у час летніх канікулаў адправіўся на працу за граніцу.

Склікалі сход. Учынак, палічылі на факультэце, сур"ёзны, заслугоўвае "ўсенароднага ганьбавання". І таму запрасілі на сход нават карэспандэнта, каб той змясціў матэрыял у газеце.

Адным словам, добра дасталася Аляксандру: пачуў ён нямала крыўдных слоў, накшталт "чалавека буржуазных нораваў", "здрадніка сваёй радзімы" і да т.п. Упікалі, што нашы прадпрыемствы ледзь не спыняюцца ад дэфіцыту рабочых рук, а ён едзе за "доўгім рублём".

працу за мяжу.

— Недзе праз месяц, — расказала Плоская, — атрымала выклік у "Бюро па працаўладкаванню". Адзін з самазадаволеных маладжавых людзей з усіх бакоў нейк нахабна агледзеў мяне і буркнуў: "Падыходзіш. Паедзеш на фермерскую гаспадарку сартыраваць памідоры".

Я паспрабавала нагадаць, што маю высокую кваліфікацыю мантажніцы. Але той чалавек катэгарычна абарваў мяне літаральна на паўслове: "Не жадаеш — не трэба. Іншыя знойдуцца". І знайшліся б, бо папасці ў спіс кандыдатаў цяжка.

Прывезлі нас на фермерскую гаспадарку і змясцілі ў... турму, дакладней, у былы будынак турмы. Самі ведаеце, якія тут умовы для жыцця. Нейк уладкаваліся. Пераэнаёміліся. У кампаніі жанчын з Беларусі былі ўрачы, настаўнікі... І, што яшчэ больш уразіла, два кан-

*МЫ НЕ РАБЫ,*

*АЛЕ НАС ЦЯПЕР ТАКІМІ ЛІЧАЦЬ*

# ЧАСЫ МЯНЯЮЦЦА, НОРАВЫ ТАКСАМА

Пасля сходу вырашыў пагутарыць з Аляксандрам. Удалося выклікаць яго на шчырую гутарку. Хлопец з вёскі. Асаблівай дапамогі ад бацькоў у час вучобы не атрымліваў. А хацелася ў інстытуце быць, як і ўсе: мець джынсы, павесці дзяўчыну ў кіно... І таму "доўгі рубель" не пашкодзіў бы.

Да гэтага часу з "замежнымі" рабочымі мне гутарыць не даводзілася. Простая чалавечая цікавасць дапамагла задаць і некалькі незапланаваных пытанняў.

— У якой краіне працавалі?

— Зусім не ў буржуазнай, як упікалі мяне аднакурснікі і выкладчыкі, — адказаў Аляксандр. — У Польшчы.

— І кім там уладкаваліся?

— Памочнікам распілоўшчыка лесу.

— А якія ўмовы працы, быту?

— Нармальныя. Жыў я і яшчэ адзін малады хлопец з Венгрыі ў летняй прыбудове. Харчаваліся добра, за гэта кааператыў, які нас наняў, не браў ні капейкі. Зарабілі мы больш, чым маглі б зарабіць за такі час у нас на радзіме нават на так званай шабашцы.

...Успомніў я гэты выпадак вось чаму. Цяпер выязджаць на работу ў далёкае замежжа могуць многія. За гэта ніхто нікога не прыцягвае да адказнасці, не даходзіць і да нейкага там таварыскага суда.

Едуць у розныя краіны. Але, як сведчыць статыстыка, найбольш у Польшчу. Сёлета тут знаходзіцца каля аднаго мільёна чалавек з краін былога Саюза. Большасць з іх займаецца бізнесам: продажам алкагольных напіткаў, цыгарэт, тавараў павышанага попыту, ці, як мы кажам, шырспажыву. Яшчэ адзін від бізнесу — пастаўка рабочых рук для прадпрыемстваў і асабліва для фермерскіх, сельскагаспадарчых кааператываў.

Атрымліваецца нібыта парадокс: у самой Польшчы існуе беспрацоўе, а тут патрэбны рабочыя з-за мяжы. Дарэчы, разумеючы складаную эканамічную сітуацыю ў краінах СНД, урад Польшчы стараецца нам дапамагчы. Нават цяпер, калі тут існуе беспрацоўе (2,7 мільёна чалавек) ён сёлета даў афіцыйны дазвол на працаўладкаванне 200 тысяч чалавек.

Але трэба быць наіўным, каб паверыць у тое, што кожнага, хто прыедзе ў Польшчу, прымаюць сардэчна. Адзінкі ўладкоўваюцца па афіцыйных кантрактах. Астатнія маюць шанц атрымаць працу часова, прычым далёка не кваліфікаваную.

Вось тут і развіваюць сваю дзейнасць бізнесмены па працаўладкаванню. Пачынаюць справу яшчэ на тэрыторыі СНД. Складаюць спісы тых, хто жадае паехаць за мяжу, каб зарабіць капейку. Звычайна ў гэтыя спісы трапляюць людзі, хто страціў працу часова ці пастаянна з-за спынення прадпрыемстваў (магчыма, толькі на невялікі перыяд — месяц, два...). Яшчэ адна катэгорыя людзей — гэта тыя, каму на радзіме не хапае грошай па асноўнаму месцу службы ці работы. Яны гатовы на любыя ўмовы. А гэта і скарыстоўваюць бізнесмены; расстаўляючы свае сеткі, фактычна перапрадаючы рабочыя рукі замежным гаспадарам, атрымліваючы немалыя барышы.

...Галіна Плоская (па яе просьбе прозвішча зменена. — Я.Т.) працуе на адным з былых ваенных заводаў у Мінску. Пасля распаду СССР прадпрыемства паступова абанкручвалася, працаўнікам не было чым плаціць. Іх адпраўлялі ў прымусовыя адпачынкі на некалькі месяцаў.

А жыць жа трэба! І Галіна, прачытаўшы аб'яву, становіцца на чаргу (!), каб паехаць на

дыдаты навук. Вось да чаго дайшлі! Працавалі гэтыя вучоныя, лічыце, чорнарабочымі.

Зразумейце мяне правільна: я заўжды паважала працу, ездзіла ў вёску да бацькоў і не цуралася і гной з хлява выкідаць, і двор падмесці. Але, калі я ўжо стала высакакласнай мантажніцай, то мне было б сорамна працаваць дворнікам. А тут людзі маюць вучоныя ступені, а згадзіліся працаваць простымі чорнарабочымі.

Яны казалі, што і ім сорамна. Толькі што рабіць? Дома, у Беларусі, атрымліваюць мала, не хапае, каб пракарміць сям"ю. Вось і вырашылі падзарабіць.

Па нашых мерках, нам плацілі больш, чым дома. Скажам, за два месяцы ў мяне выйшла ў пераводзе на расійскія рублі каля 900 тысяч. Але гэта сума значна меншая, чым тая, якую плацілі б мужчыне. Хаця і заробак мужчыны, хто прыехаў з краін СНД, значна ўступаў заробку мясцовага рабочага, паляка.

Цяпер аб рабоце. Дагледаць, а потым збіраць памідоры ў цяпліцах ферм цяжка. Рабочы дзень доўжыўся па 16 гадзін. Фактычна на адпачынак не заставалася часу. Перапынкаў таксама было мала, бо за намі сачылі наглядчыкі. Літаральна праз тыдзень хацелася кінуць усё і ўцячы дадому. І толькі думка аб тым, што на радзіме сядзець без капейкі, прымушала цярпець.

А цярпець было цяжка. За першыя дзён дзесяць я двойчы страчвала прытомнасць — у цяпліцах было вельмі горача, стаяў нясцерпны смурод. Казалі, што палякі ўжываюць нейкія асаблівыя хімікаты, каб памідоры хутчэй паспявалі.

А горш за тыя ўмовы працы былі кпіны мясцовага насельніцтва: вось, маўляў, у гэтай цяпліцы працуюць...рабыні з Савецкага Саюза (пакуль яны не прывыклі да таго, што Саюза даўно няма).

Рэдка надаралася часінка, каб заглянуць у мясцовыя магазіны. Усяго ў іх было многа. Толькі не з нашымі пустымі кашалькамі туды было хадзіць. Ды вельмі прыніжалі падазроныя позіркі прадаўцоў: не паспееш да прылаўка наблізіцца, як за табой гаспадар ці гаспадыня лаўкі ў суправаджаючых навязваецца. Усё цікуюць: а можа гэтыя "рускія" хочуць што-небудзь украсці.

Чаму яны так пра нас думаюць? Хіба заслужылі мы такое прыніжэнне...

Не, лепей аб гэтым не ўспамінаць. Ледзьве дачакалася, каб хутчэй той кантракт скончыўся ды дадому вярнуцца.

Расказвала аб сваёй паездцы ў Польшчу Галіна Плоская, а сама паўтарала: чаму яны нас за рабоў лічаць? Чаму мы так нізка апусціліся? Горка за нацыю, нашу цярплівасць.

Хацелася закончыць гэту гутарку, якая адбылася даўнавата, традыцыйнымі словамі: "Мы не рабы. Не сцерпім больш такога прыніжэння. Ніколі не згодзімся ехаць на такія заробкі". На жаль, жыццё аказалася больш рэальным: не прайшло і месяца, а Галіна Плоская зноў абівае пароті той жа "біржы", каб паехаць у Польшчу ўжо на збор яблыкаў.

Адным словам, патрыятызм ці чалавечая годнасць добра, але грошы для нас цяпер яшчэ лепш. І нікуды ад гэтага нам на дзецца. Жыць жа нейк трэба.

Яўген ТУРАЙКЕВІЧ.

НАШЫ Ў ПОЛЬШЧЫ





**Суайчыннікаў у Польшчы беспамылкова пазнаеш па экіпіроўцы: спартыўны касцюм і куртка, зручныя красоўкі і каляскі, што рыпяць пад цяжарам безразмерных баулаў. Мэта ў такіх "турыстаў" адна — выгадна прадаць свой тавар, купіць для далейшага перапродажу ў Беларусі дэфіцытныя ў нас рэчы ці абмяняць выручку на долары. Вязуць на продаж літаральна ўсё: посуд, інструмент, веласіпеды, цацкі, нават бялізнавыя прышчэпкі.**

**А паколькі цэны з дня на дзень у нас і ў Польшчы збліжаюцца і гандляваць становіцца нявыгадна, некаторыя нашы грамадзяне прымаюцца за "бізнес", што знаходзіцца ў супярэчнасці з законам. Гэта рэкет, рэалізацыя наркотыкаў і фальшывых грашовых знакаў, элементарны разбой на дарогах. Як правіла, дзейнасць такіх "дзялкоў" заканчваецца ў камісарыяце паліцыі.**

**Яўген КАЗЮЛЯ.**

**НА ЗДЫМКАХ: бойка гандлююць нашы суграмадзяне на рынку ў Беластоку; гэтыя двое гродзенцаў аказаліся за кратамі камісарыята паліцыі на рынку ў Беластоку за спробу рэалізацыі фальшывых грошай.**

**Фота аўтара.**

## БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ НАД ПАРЫЖАМ

Беларусь наведала Лінет Дальмасо — вядомая ў многіх краінах свету французская спявачка, кампазітар і... вялікая аматарка падарожжа на веласіпедзе.

Аб'ехаўшы на ціхаходнай машыне за трыццаць гадоў у вольны ад выступленняў час частку Афрыкі, Еўропы і Азіі, актрыса ўпершыню прыехала ў нашу рэспубліку. Пабываўшы на шляху ў сталіцу ў некалькіх беларускіх гарадах, праехаўшы праз нашы вёсачкі і пагаварыўшы з людзьмі, азнаёміўшыся ў Мінску з рознымі славутасцямі, спявачка выказала жаданне ўключыць неўзабаве ў свой рэпертуар некалькі... беларускіх песень.

— Мне вельмі спадабалася Беларусь, — сказала Лінет Дальмасо. — Што б ні здарылася, я абавязкова прыеду да вас яшчэ.

Днямі актрыса паяцць дамоў: ёй трэба паспець да пачатку новага канцэртнага сезона.

## НЕ КОЛЬКАСЦЮ, А ЗМЕСТАМ

Скарацілася колькасць пазіцый у тэматычным плане выдавецтва "Полымя" (як і іншых) на 1994 год. Аднак прывабліваё ён калі не колькасцю кніг, дык зместам іх. Найперш маю на ўвазе раздзел "Краязнаўства". Сёлета выходзіць кніга В.Чаропкі "Імя ў летапісе", у наступным годзе — яе працяг "Уладары Вялікага Княства". Аўтар расказвае пра М.Глінскага, К.Астрожскага, Л.Сапегу, Я.Хадкевіча і многіх іншых, чыя дзейнасць належыць нацыянальнай гісторыі.

Чытача чакае сустрэча і з такімі выданнямі, як "Флагі Беларусі ўчора і сёння" А.Басава і І.Куркова, "Лёс Крэва" А.Дзярновіча, А.Трусава, І.Чарняўскага, "Нумізматыка Беларусі" В.Рабцэвіча, "Гарадская геральдыка" А.Цітова, "Шукаю кветку папараці" У.Касько (пра А.Сержпутоўскага ў серыі "Нашы славутыя землякі").

Серыя "Па родным краі" папоўніцца "Споведдзю дарог" Г.Каханоўскага і А.Каханоўскага (Маладзечаншчына) і "За смугою часу" В.Супруна (Слонімшчына).

У планах "Полымя" — "Жальба жытняга коласа" Я. Пархуты, "Сэрца пакідаю вам" М.Жыгоцкага, "Тут бачу свой край" У.Содаля і іншыя выданні.

НАВІНЫ МІЖНАРОДНАЙ АСАЦЫЯЦЫІ БЕЛАРУСІСТАЎ

# ПЕРШЫЯ ВЫДАННІ

Выйшлі з друку зборнікі "Беларусіка-1" і "Беларусіка-2", якія з'яўляюцца першымі навуковымі выданнямі Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў і Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф.Скарыны. У першы з іх увайшлі матэрыялы Устаноўчага кангрэса беларусістаў, які адбыўся ў 1991 годзе ў Мінску, а таксама юбілейнай Скарынаўскай навуковай сесіі 1990 года. У "Беларусіцы-1" чытач знойдзе працы вучоных Англіі, Аўстрыі, Балгарыі, Беларусі, Індыі, Літвы, Польшчы, Расіі, Славеніі, Украіны, Чэхіі і Швейцарыі, прысвечаныя гістарычнаму мінуламу нашага народа, яго культуры, моўнаму і літаратурнаму ўзаемадзеянню. У канцы зборніка змешчаны дыскусійны артыкул Васіля Супруна (Слонім) "Адкуль прыйшлі балты?"

"Беларусіка-2" уключае матэрыялы Міжнароднай навуковай канферэнцыі "Фарміраванне і развіццё нацыянальнай самасвядомасці беларусаў", праведзенай у Маладзечне ў мінулым годзе. Тут прадстаўлены даклады і паведамленні амерыканскіх, англійскіх, беларускіх, польскіх, расійскіх і ўкраінскіх сяброў Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў.

Рыхтуецца да друку зборнік "Ад Полацка і Нясвіжа — да Падуі і Венецыі", куды ўвойдуць матэрыялы першай беларуска-італьянскай навуковай канферэнцыі, што адбылася восенню мінулага года ў Венецыі.

## УПЕРАДЗЕ — БЕЛАСТОК!

У Гродне адбылося чарговае пасяджэнне Міжнароднага камітэта беларусістаў, у якім, апрача гаспадароў, прынялі ўдзел вучоныя з ЗША, Латвіі, Літвы, Польшчы, Расіі, Чэхіі і Швейцарыі. Прэзідэнт МАБ Адам Мальдзіс расказаў аб выніках работы за апошнія месяцы. Вучоны сакратар асацыяцыі Генадзь Цыхун паставіў пытанне пра тое, дзе, як і калі пройдзе наступны кангрэс беларусістаў. Сябра рэвізійнай камісіі Лола Эванарова (Масква) давяла да ведама прысутных, як выглядаюць фінансавыя справы МАБ.

Затым адбылася зацікаўленая гаворка пра паўсядзённае жыццё беларусістаў. Прывяду з яе некаторыя, найбольш цікавыя выказванні. "Колькасць сяброў асацыяцыі ў Беларусі значна ўзрасла. Без іх не абыходзіцца ніводная гуманітарная навуковая канферэнцыя, ніводны калектыўны зборнік" (Уладзімір Конан). "У ЗША назіраецца рост цікавасці да Беларусі. Многія вучоныя выказалі жаданне ўвайсці ў Амерыканскую асацыяцыю беларусістаў, статут якой распрацаваў Томас Бэрд" (Вітаўт Кіпель). "Завяршаю працу над беларуска-латышскім слоўнікам" (Мірдза Абала). "Мы рыхтуемся адзначыць у Літве 110-ю гадавіну з дня нараджэння Вацлава Ластоўскага, які, як вядома, быў жанаты з нашай пісьменніцай Лаздзіну Пяледа" (Альма Лапінскене). "У Польскай асацыяцыі беларусістаў сёння 120 сяброў. Правялі вечар, прысвечаны юбілею Максіма Гарэцкага, навуковую канферэнцыю ў Беластоку "Дарога да ўзаемнасці". У Ольштыне рыхтуем сустрэчу на тэму "У кругу ўсходнеславянскіх культур". Неўзабаве будзе беларуска-польскі слоўнік. Цікавасць да беларусістыкі ўзрастае. Так, на 15 месцаў на беларускую філалогію ў Варшаўскім універсітэце сёлета пададзена 70 заяў, і амаль усе яны — ад палякаў" (Аляксандр Баршчэўскі). "У Інстытуце славяназнаўства і балканістыкі Расійскай акадэміі навук створана новая суполка беларусістаў, куды ўвайшлі 11 навукоўцаў. Іх цікавяць праблемы Палесся, Падляшша" (Юры Лабынцаў). "Мы правялі канферэнцыю "Беларусы ў Санкт-Пецярбургу" і збіраемся зрабіць яе штогоднай. Выяўляем матэрыялы па беларусістыцы ў пецярбургскіх архівах і бібліятэках" (Мікола Нікалаеў). "Пражскія беларусісты, а іх 16 чалавек, рыхтуюць чэшска-беларускі слоўнік, гісторыю беларускай літаратуры, правялі вечары, прысвечаныя Скарыне і Багдановічу. Арганізуюцца адпаведныя студэнцкія семінары і інфармацыйныя сустрэчы" (Вацлаў Жыдліцкі). "Беларускія матэрыялы ёсць у кнізе пра падарожжы швейцарцаў па Усходняй Славяншчыне і будуць у даведніку пра славянскую эміграцыю ў Швейцарыі" (Моніка Банькоўскі-Цуліг). Многія прамоўцы выказвалі трывогу з нагоды рэзкага скарачэння колькасці перакладаў з беларускай і на беларускую мову.

Што ж датычыцца наступнага кангрэсу беларусістаў, дык прафесар Варшаўскага універсітэта Аляксандр Баршчэўскі прапанаваў правесці яго ў 1995 годзе ў Беластоку. Прапанову рашылі вывучыць.

## ДЛЯ ЎКРАІНСКІХ СТУДЭНТАЎ

Віцэ-прэзідэнт МАБ кіеўскі мовазнавец Рыгор Піўтарак не змог прыехаць на пасяджэнне камітэта па некалькіх прычынах. Адна з іх звязана якраз з беларусістыкай. Як паведамляе вучоны ў сваім лісце, ён рыхтуе "да друку падручнік па беларускай мове для студэнтаў ВНУ Украіны (павінен выйсці ў 1994 годзе)". Адначасова Р. Піўтарак супрацоўнічае з Галоўнай рэдакцыяй выдавецтва літаратуры для нацыянальных меншасцей Украіны (ёсць там і такое). Яно рыхтуе кніжкі паралельна на дзвюх мовах.

Р. Піўтарак піша, што ў Кіеўскім універсітэце адбыўся першы выпуск студэнтаў-беларусістаў у колькасці дзевяці асобаў. Адзін з іх паралельна скончыў КДУ і БДУ. Частка выпускнікоў пойдзе ў аспірантуру.

## У ЧУВАШСКІМ ДРУКУ

Днямі ў камітэт МАБ прыйшла бандэроль з Чэбаксараў. А ў ёй — нумар газеты "Советская Чувашия" з артыкулам Генадзя Юмарта "Хаця да Нёмана не блізка..." Старшыня чувашскага аддзялення МАБ піша, што "чувашы і беларусы маюць нямала агульных нацыянальных рысаў — сціпласць, цярплівасць, працавітасць, адданасць даўнім традыцыям". Прынамсі, такую думку падаў аўтару чувашскі музыказнавец М. Кандрацьеў.

У артыкуле Г. Юмарта гаворыцца пра сяброўскія адносіны Янкі Купалы з чувашскімі паэтамі Н. Шэлебі і С. Эльгерам, пра чувашоў Д. Міхлеева і В. Ачайніца, якія працуюць на ніве беларускай культуры. Выказваецца прапанова стварыць у Мінску чувашскае зямляцтва.

Цяпер, піша Г. Юмарт у прыкладзеным да газеты лісце, чувашскія перакладчыкі рыхтуюць падборку беларускай паэзіі для часопіса "Ялав".

Алеся БЕЛАВУСАВА,
рэферэнт МАБ.



# СВЯТАЯ ГАРА ГРАБАРКА





Ёсць у Польшчы, на поўдні Беластоцкага ваяводства, месца, што шануецца ўсімі праваслаўнымі жыхарамі краю. Гэта Святая Гара Грабарка. Тройчы ў год — на святы Праабражэння Гасподня і Божай Маці Смуткуючых, на Іардан — дзень асвячэння вады, збіраюцца на Грабарцы праваслаўныя людзі. З усіх гарадоў, мястэчак і вёсак адпраўляюцца ў дарогу паломнікі, каб пешшу пераадолець шлях да святыні. Яны нясуць сюды свае беды, прашэнні і ўдзячныя малітвы. Малымі ручайкамі сцякаюцца паломнікі ў шматтысячную людскую раку. Многія нясуць з сабой драўляныя крыжы, якія пасля асвячэння ўстанаўліваюцца на схілах Грабаркі. Апошнія дзесяткі метраў пад'ёму на Святую Гару да царквы Праабражэння Гасподня паломнікі пераадольваюць на каленях, цалкам аддаючыся ў думках Госпаду. А далей — пропаведзі і канфідэнцыяльныя гутаркі са свяшчэннікамі, малітвы і абмыванні святой вадой з крынічкі ля падножжа Гары.

Многія гады Святая Гара Грабарка — месца паломніцтва праваслаўных людзей з многіх краін свету. І ў гэтым годзе сюды прыбылі паломнікі з Расіі і Чэхіі, Грэцыі і Бельгіі, ЗША і Англіі... Прыйшла група веруючых з Мінска і Гродна.

НА ЗДЫМКАХ: хлеб-соль Мітрапаліту Варшаўскаму і ўсяе Польшчы БАЗЫЛІО; пад'ём крыжа на Грабарку; на Святую Гару прыходзяць і старыя і маладыя.

Фота Я. КАЗЮЛІ.

# МНОГІЯ ПРЫЙДУЦЬ АД ІМЕНІ МАЙГО

## (ЕЗУІТЫ НА БЕЛАРУСІ)

На Беларусі езуіты так старанна спаўнялі зарок беднасці, што неўзабаве сталі буйнымі феадаламі ў чорных сутанах і плашчах, жорсткімі прыгоннікамі, уласнікамі прамысловых прадпрыемстваў, займаліся гандлем, у тым ліку гарэлкай, не грэбавалі ліхвярствам.

Здаецца: жыві, купайся, як той сыр у масле, але езуіты страцілі ўсякае пачуццё меры. Увераваўшы ва ўсёдазволенасць і беспакаранасць, яны лезлі ў палітыку, эканоміку, бесцырымонна ўмешваліся ў сямейныя адносіны, плялі інтрыгі, удзельнічалі ў гандлёвых спекуляцыях, займаліся махлярствам, вымаганнем. І ўсё дзеля ўлады і грошай, грошай і ўлады. Не навучылі іх атрыманыя ў Еўропе ўрокі яшчэ ў сярэдзіне XVI стагоддзя. За злоўжыванне сваім становішчам легаты Лаёлы Сальмярон і Бруэ вымушаны былі, ратуючыся ад помсты свабодалюбных ірландцаў, уцячы з Дубліна тайна, пад покрывам ночы. Адкрыта абураліся паводзінамі езуітаў партугальскія дваране і пісьмова патрабавалі ад караля Хуана III іх выгнання. Французскі парламент, назваўшы езуітаў "амаральным зборышчам яўных нягоднікаў і незаконнанароджаных вырадкаў", пераважнай большасцю галасоў і насуперак волі караля Францыска I і пазіцыі кардынала Шарля Ларэнь-Гіза вышпурнуў Лаёлава племя другі раз за межы сваёй дзяржавы. На тайнай нарадзе ў Рыме генерал ордэна прапанаваў стаіцца і чакаць спрыяльных пераменаў. І яны наступілі: 31 сакавіка 1547 года сканаў Францыск I, на прастол сеў яго сын Генрых II, муж славесна славутай Кацярыны Медзічы, і езуіты, бы тыя прусакі, якіх цяжка вытруціць, зноў наваднілі Францыю і працяглы час карысталіся там вялікім палітычным уплывам. У Партугаліі яны ўтрымаліся дзякуючы тэрору. Хуан III пад уздзеяннем свайго духоўніка Радрыгеса хутка ўтаймаваў свавольнае дваранства простым, бы аглобля, спосабам: кідаў незадаволеных у турмы.

Варожа ставіліся да езуітаў і католікі, асабліва духоўнага звання. Вышэй ужо згадвалася пра вядомага багаслова Кано з Саламанкі, якога актыўна падтрымліваў таледскі архібіскуп Сілічэа, а яго вікарый адлучыў мясцовых езуітаў ад царквы і пачаў выжываць гадаванцаў Лаёлы з усёй саламанскай епархіі. Лаёла зрабіў пэўныя захады. Пад націскам з Рыма Сілічэа скарыўся, а неўзабаве чамусьці раптоўна памёр. Кано камандзіравалі на трыдэнцкі сабор, а адтуль адправілі далей ад Іспаніі, прызначыўшы біскупам Канарскіх выспаў. Шкоднай лічылі дзейнасць "Таварыства Ісуса" і выкладчыкі парыжскага універсітэта. Гэтай жа думкі прытрымліваўся і парыжскі біскуп Эсташ дю-Бялэ. Пашырэнне антыезуіцкіх настрояў у вышэйшых колах рымска-каталіцкай царквы вымусіла папу выдаць 18 кастрычніка 1549 года адмысловую булу "Licet debitum", якою абвяшчалася дбайная апека папскага прастола над езуітамі.

Паблажлівае заступніцтва папскай курыі прывяло да таго, што ў Еўропе пракацілася некалькі хваляў абурэння езуітамі, якія, заахвочаныя патуральным маўчаннем першаіерархаў, расперазаліся канчаткова і сваімі паводзінамі дыскрэдытавалі не толькі каталіцкую царкву, але і самога папу рымскага. Непакоіла і тая акалічнасць, што генерал ордэна езуітаў, званы паўсюдна чорным папай, ужо даўно, як прыгледзеліся, падпарадкоўваецца сапраўднаму папе толькі намінальна. Узважыўшы прадстаўлены камісіяй матэрыял за і супраць, папа Клімент XIV выдае 21 ліпеня 1773 года булу "Dominus ac Redemptor noster" аб забароне "Таварыства Ісуса" на "вечныя часы", але доўжыліся яны ўсяго 41 год. Яшчэ карацейшым было жыццё самога папы: 22 верасня 1774 года ён нечакана сканаў ад атруты. А ордэн, хоць і неафіцыйна, напаўпадпольна працягваў існаваць. Майстэрскі вымуштраваную, рассеяную па ўсім свеце і шматаблічную "баявую кагорту" распусціць адным росчыркам пяра, нават самога папы, было не так лёгка. І сухое дрэва не кожная бура зваліць адразу, асабліва калі карэнне яшчэ не спарахнела, а яно ў езуітаў было моцнае, учэпістае. У сакавіку 1800 года на папскі прастол пад імем Пія VII узышоў кардынал Чыарамонці, даўні і шчыры прыхільнік Ісусавага таварыства, ён адразу ж дазволіў дзейнасць езуітаў.

На першым часе санкцыя захоўвалася ў тайне, бо не было вядома, як на гэта гляне тагачасны гаспадар Еўропы непрадказальны Напалеон. Счакаўшы без нечага чатырнаццаць гадоў, Пій VII абнародаваў 17 жніўня 1814 года булу "Sollicitudo omnium ecclesiarum" аб аднаўленні ордэна ва ўсіх правах і прывілеях. Але рэпутацыя ордэна ўжо была добра падмочана, ён ужо ніколі не ўзняўся да былой магутнасці, калі кантраляваў амаль манапольна ўсё разумовае жыццё грамадства, калі вернікі знаходзіліся пад пільным наглядам і былі пазбаўлены права свабодна слухаць і гаварыць. У езуітаў усюды былі свае вочы і вушы, нават у сямейнай спальні. Езуіты добра ведалі цану інфармацыі і ўмела карысталіся ёю.

Пераможнае шэсце езуітаў уражвала, але гэтая эфектыўнасць утрымлівала небяспечную ілюзію, бо першапачатковы поспех не вырашаў уласцівых ордэну супярэчнасцяў, а толькі заганяў іх у глыбіню. Супярэчнасці назапашваліся, раслі, бы снежны камяк, рыхтуючы новы выбух, і ён неўзабаве сапраўды ўскалыхнуў грамадства, але ўжо на ўсходзе Еўропы.

На Беларусі лёс езуітаў вырашаўся дваяка, у залежнасці ад таго, дзе яны апынуліся пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай 1772 года: засталіся па-ранейшаму ў Вялікім Княстве Літоўскім ці ўвайшлі ў склад Расейскай імперыі. На незабранай тэрыторыі княства, як ва ўсёй Рэчы Паспалітай, булу Клімента XIV давялі да ведама вернікаў, дзейнасць езуітаў забаранілі. Роспуск ордэна адразу скарысталі прыхільнікі школьнай рэформы, ідэі якой ужо даўно луналі ў паветры. Падканцлер І.Л.Храптовіч, знакаміты філосаф-фізіякрат, аўтар кніг "Аб штогадовым нацыянальным узнаўленні" і "Пра права прыроды", прапанаваў на сойме стварыць Адукацыйную камісію, а ўсе без выключэння сродкі і маёмасць езуітаў перадаць фонду "Адукацыі і выхавання юнацтва". Адукацыйная камісія — "першая ў гісторыі чалавецтва міністэрства асветы" — неўзабаве адкрыла 20 школ: 17 сярэдніх і тры акадэмічныя — у Бярэсці, Гародні і Навагрудку. На езуіцкіх руінах узышла новая, упершыню дзяржаўная, школа, пазбаўленая дагматызму і схаластыкі.

На далучанай да Расійскай імперыі частцы Беларусі з гарадамі Полацак, Віцебск, Орша, Мсціслаў, Дынабург (цяпер Даўгаўпілс у Латвіі) усё пайшло па іншаму шляху. На гэтай тэрыторыі знаходзілася 50 праваслаўных цэркваў і манастыроў, 45 каталіцкіх касцёлаў і кляштараў, 500 уніяцкіх цэркваў і 21 манастыр, 6 езуіцкіх калегій, 2 рэзідэнцыі, 12 дамоў і місійных пунктаў з 6 школамі. З 1 077 афіцыйных езуітаў Вялікага Княства Літоўскага тут засталося толькі 178 сяброў "Таварыства Ісуса". Па атрыманні булы Клімента XIV К.Сабалеўскі адразу склаў з сябе званне правінцыяла беларускай правінцыі і перайшоў у белае духавенства. Але віцэ-правінцыял С.Чарневіч, ён жа і рэктар полацкага калегіума, не падпарадкаваўся папе і ўзяў кіраўніцтва езуітамі ў свае рукі.

Імператрыца Кацярына II адмоўна ўспрымала езуітаў: 28 мая 1772 года яна пісала прызначанаму беларускім генерал-губернатарам графу З.Чарнышову літаральна наступнае: "Вы за гэтымі (езуітамі) як мага нядрэмна назірайце, як за самымі крывадушнымі з усіх лацінскіх ордэнаў". І раптам у наступным годзе яна змяняе свае адносіны, бярэ "самых крывадушных" пад сваю манаршую апеку і забараняе абнародаванне булы папы Клімента XIV, што касавала ордэн.

Імператрыца павярнулася тварам да езуітаў выключна пад уплывам Чарневіча. Разумны і дальнабачны, ён не на словах, а на канкрэтных учынках паказаў кемлівай уладычыцы патэнцыяльныя магчымасці ордэна ва ўсталяванні расійскай дзяржаўнасці на далучаных землях. А справа гэтая нялёгкая і не аднаго года. Ведала Кацярына II і пра тое, як сустракала беларускае насельніцтва на 3/4 уніяцкае (800 тысяч чалавек) і каталіцкае (100 тысяч чалавек) нязванае войска яе імператарскай вялікасці... Непрыязнасць, панурыя погляды з-пад нахмураных броваў, насцярожанасць. Ды і праваслаўныя (300 тысяч чалавек) не кідаліся ў абдымкі, чамусьці касавурыліся... Адны толькі езуіты адкрыта выказалі лаяльнасць новым уладам, першымі з вялікім святочным уздымам, урачыстымі малебнамі і прывітальнымі казаннямі зладжылі прысягу манархіні з Паўночнай Пальміры і тым далі станоўчы прыклад лаяльнасці шляхце і простаму народу, якія азіраліся на уніяцкае і каталіцкае духавенства, а тыя не спяшаліся прысягаць. Чарневіч улічыў усё і склікаў езуітаў у сваю сталіцу, Полацак, дзе ўрачыста прывёў іх да прысягі не калі-небудзь, а менавіта ў дзень анёла саракадвухгадовай імператрыцы. А бліскучае слова патэра Я.Катэбрынга так расчуліла Кацярыну II, што яна, чытаючы тэкст віншавання, у замілаванні заплакала. Затым Чарневіч з рэктарам полацкай калегіі Г.Лінкевічам і Катэбрынгам прыехаў у Пецярбург прысягаць не гэтулькі за сваю правінцыю, колькі за езуітаў яшчэ не забранай часткі Беларусі і Польшчы. Палітычны намёк надзвычай прыйшоўся да душы імператрыцы, якая ўжо снавала планы наступных падзелаў Рэчы Паспалітай.

Убачыўшы ў езуітах верных прыхільнікаў, Кацярына II рэзка змяніла курс, узяла іх пад сваю апеку і аддала загад генерал-губернатару З.Чарнышову аб захаванні ордэна на забраных землях. А 24 студзеня 1774 года вызваліла езуіцкія ўладанні ад падаткаў, прызначыла штогадовую дзяржаўную субсідыю ў памеры 8 000 рублёў на ўтрыманне навучальных установаў. Вось чаму імператрыца, гулліва паківаўшы пухленькім пальчыкам, засунула прывезеную ў Пецярбург біскупам Станіславм Богуш-Сестранцэвічам булу Клімента XIV пад сукно.

Знайшоў С.Чарневіч і ключык да ўплывовых кацярынінскіх саноўнікаў. Пацёмкін, напрыклад, дапамог пераадолець перашкоды з увядзеннем пасады генерала ордэна, праўда, назваўшы яго да часу віцэ-генералам, але захаваўшы ўсе паўнамоцтвы. Зразумела, ім стаў Чарневіч. На свае ўласныя сродкі фаварыт імператрыцы ўзвёў у Полацку вялікі будынак для віцэ-генерала і яго прафесараў. А З.Чарнышоў, якому яшчэ нядаўна даручалася не спускаць з езуітаў вачэй, заснаваў у Чачэрску езуіцкую рэзідэнцыю.

Усё было добра, нават лепш, чым да забароны ордэна. Толькі адна акалічнасць непакоіла Чарневіча: орден чакала выміранне. Пройдзе нейкі час (а ён плыве няспынна), і не застанецца ніводнага брата. Хто думаў, калі ўрачыста, з уласцівым езуітам размахам святкавалі двухсотгоддзе ордэна, што так абернецца... І Чарневіч зноў пайшоў на канфлікт з рымскай курыяй. Насуперак папскай буле і кананічнаму праву ён рашыў стварыць навіцыят з правам навучання і прысвячэння ў ордэн жадаючых. Кацярына II не супярэчыла, нават вытрымала масіраваны націск папы, які праз каралеўскія двары амаль усіх краін Еўропы спрабаваў угаварыць яе адмовіцца ад задуманага. 30 чэрвеня 1779 года біскуп Богуш-Сестранцэвіч абнародаваў дазвол на адкрыццё ў Полацку навіцыята і аб прыёме жадаючых паступіць у "Таварыства Ісуса", а 2 лютага 1780 года адбылося ўрачыстае адкрыццё навіцыята. Як толькі вестка пра гэтую падзею распаўсюдзілася ў Еўропе, сюды пацягнуліся былыя езуіты з Польшчы, Нямеччыны, Італіі, Францыі. Будучыня ордэна была надзейна забяспечана, тым больш, што неўзабаве ў Дынабургу (Дзвінск, Даўгаўпілс) гасцінна расчыніў дзверы другі навіцыят.

Езуіты праводзілі актыўную палітыку дэнацыяналізацыі краю. І што недаравальна — часта асвячонымі рукамі паскудных пярэваратняў, якія за ўяўную ўладу і звон чырвонцаў гатовы служыць не толькі чужынцу, але і мамоне. І хрысціянства — ці то праваслаўе, ці то каталіцтва — тут не вінавата, яго, па-кашчунску выкарыстоўвалі для прыкрыцця ганебных мэтаў, сквапнасці і срэбралюбства. Генералы ордэна С.Чарневіч, Г.Лянкевіч, Т.Бжазоўскі, беларусы па паходжанню, у якіх езуіцкае выхаванне і ідэалогія вытравілі пачуццё духоўнай сувязі са сваім народам, зрабілі для свайго краю, яго культуры і эканомікі роўна столькі, колькі зрабілі генералы-чужынцы, напрыклад, немец Ф.Каро і аўстрыйскі падданы славенец Г.Грубер, г.зн. нічога, акрамя шкоды.

Можна запярэчыць: а як жа асвета, якую езуіты пашыралі праз калегіумы, школы, акадэміі? Справа ў тым, што ўся сістэма езуіцкай адукацыі, пачынаючы ад вучылішчаў пры рэзідэнцыях і канчаючы акадэміямі, цалкам была падпарадкавана інтарэсам ордэна. Нават у калегіумах, якія лічыліся свецкімі навучальнымі ўстановамі, хітрамудрыя езуіцкія выкладчыкі без дакучлівага дыдактызму фарміравалі ў сваіх выхаванцаў патрэбныя ім рысы характару і склад думак. Агульнавядома: навука, накіраваная супраць нацыянальных інтарэсаў народа, прадукуе пярэваратняў і манкуртаў і нічога добрага, акрамя шкоды, не прыносіць. Езуіты кралі ў грамадства самы каштоўны набытак — генетычна-разумовы патэнцыял і выкарыстоўвалі яго для дасягнення чужых і шкодных народу мэтаў. Злачынна злучыўшы каталіцтва з польскай самасвядомасцю, яны актыўна паланізавалі беларусаў. Вынікі гэтай асветы адгукнуліся злавесным рэхам праз 43 гады пасля выгнання езуітаў з Беларусі. Вось што, напрыклад, пісалі ў адрасе на імя імператара Аляксандра II у 1863 годзе беларускія сыны Віцебскай губерні: "Перед Богам, уласным краем і Еўропай заяўляем: мы з бацькоў і продкаў нашых з"яўляемся палякамі і такімі на вякі ў дзецях і патомках нашых застацца хочам". Пад адрасам 17 610 подпісаў, а гэта, напэўна, уся асвечаная тагачасная частка насельніцтва губерні.

У адрозненне ад Віцебшчыны католікі Гродзенскай губерні не лічылі сябе палякамі. У аналагічным адрасе яны пісалі: "Перад Богам, урадамі і народамі Еўропы сцвярджаем, што адзінай нашай Айчынай была, ёсць і будзе Літва" (гістарычная назва Беларусі). Здаецца, павінна было быць наадварот, калі ўлічваць сённяшнюю этнічную сітуацыю. Але адбылося неверагоднае: спрацаваў траянскі конь — "католік — паляк" — нашчадкі палымяных патрыётаў свайго краю занядбалі запавет сваіх прадзедаў. Дакладней, сталі ахвярамі прапольскага каталіцкага духавенства. Значную дозу пальшчызны большай часткі католікаў Гродзеншчыны ўпырснулі цераз дзяржаўныя структуры акупацыйнай улады Польшчы ў 1920—1939 гады, асабліва праз школу. Яшчэ някемнай дзятве ўбівалі ў галаву вершык: "Хто ты ёсць? Я паляк малы. Які герб твой? Арол белы". Гэты ж матыў няспынна гучаў з касцельнага амбона.

Яшчэ больш спрыяльным для езуітаў было цараванне Паўла I, напалоханага жудаснымі актамі французскай рэвалюцыі. Езуіты ўвайшлі ў такі давер да імператара, што ён шчыра лічыў іх увасабленнем дабра і адзінай дзейснай зброяй супраць усялякага зла. Справа дайшла да таго, што, знаходзячыся ў Рыме, Павел I вёў гутаркі з папай Піем VI аб увядзенні уніі ў Расіі. Магчыма, ён і пайшоў бы на гэта, але асцярогся шалёнага супрацьдзеяння вышэйшых праваслаўных іерархаў і забурэння народа. Прыхільнасць імператара стварыла не толькі больш спрыяльныя ўмовы для дзейнасці ордэна, але і абярнулася шэрагам ільгот. У 1800 годзе полацкі навіцыят атрымаў дазвол закладаць новыя рэзідэнцыі і місіі, праўда, толькі ў раёнах кампактнага пражывання католікаў. Пры гэтым ім вярталася канфіскаваная ўрадам Вялікага Княства Літоўскага рухомая і нерухомая маёмасць. Павел I вывеў езуітаў з-пад кантролю касцельнай улады. Архібіскуп Богуш-Сестранцэвіч за неасцярожна выказанае незадавальненне трапіў у няласку і апынуўся пад наглядам паліцыі, праўда, недалёка, у Буйнічах, сваім маёнтку на Беларусі. І апошні імператарскі падарунак прыйшоў як бы з таго свету. Выдадзеная па просьбе Паўла I була папы Пія VII аб афіцыйным прызнанні рымскай курыяй езуіцкага ордэна на Беларусі дайшла да Пецярбурга пасля забойства манарха. Пры ім "Таварыства Ісуса" пазбаўляецца почапкі, набывае вялікі ўплыў на вышэйшыя колы пецярбургскага грамадства, выкарыстоўвае расійскую дыпламатыю дзеля сваіх стратэгічных мэтаў.

**Станіслаў ЦЯРОХІН**

**Працяг.**
**Пачатак у № № 33-36.**

*ДА 80-годдзя Масея СЯДНЁВА*

# Я ПРЫЙДУ З ДАЛЁКАЕ ЧУЖЫНЫ...

Першага верасня 1993 года споўнілася 80 гадоў Масею Сяднёву — паэту, празаіку, публіцысту, аднаму з найбольш актыўных і таленавітых прадстаўнікоў беларускага літаратурнага замежжа. Яго імя ўпісана ў Брытанскую і Польскую энцыклапедыі, а ў 1989 годзе Мюнхенскім і Вашынгтонскім Джорджстаўнскім універсітэтамі Масей Сяднёў быў прадстаўлены на Нобелеўскую прэмію. Кнігі славутага беларускага паэта выдаваліся ў Германіі і Злучаных Штатах Амерыкі, перакладаліся на англійскую, польскую, рускую, украінскую мовы. Паступова, дзякуючы працэсам нацыянальнага Адраджэння, здымаецца паўвекавая забарона з яго кніг і на Бацькаўшчыне, яны ўведзены ў адкрыты фонд Беларускай нацыянальная бібліятэкі, знайшлі свайго зацікаўленага чытача. Падобна, што не спраўдзілася паэтава тужлівае прадбачанне: "Ніхто з радзімай Беларусі не прачытае маіх дум..." Ён ужо неаднойчы змог прыехаць на Радзіму, дзе адбыліся шматлікія сустрэчы з творчай інтэлігенцыяй, студэнтамі, чытачамі, дзе пачалі друкавацца яго вершы, проза, дзе выходзяць асобныя зборнікі. (Дарэчы, як дэлегат, ён прымаў удзел у рабоце Першага з'езда беларусаў свету).

Нарадзіўся М. Сяднёў у вёсцы Мокрае Касцюковіцкага раёна на Магілёўшчыне. Сваё біблейскае імя — Майсей — атрымаў пры хрышчэнні па царкоўных святцах. Бацькі — Ларыён і Малання Сяднёвы — працавітыя беларускія сяляне, усе жыццё пражылі ў роднай вёсцы, якая цяпер знікае з твару зямлі: пасля Чарнобыля жыць там нельга.

Літаратурны лёс Масея Сяднёва, як і лёсы многіх рэпрэсіраваных беларускіх пісьменнікаў-эмігрантаў, пачынаўся ў 30-я гады, калі ён, студэнт Мінскага педінстытута, друкуе свае вершы на старонках "Полымя рэвалюцыі", "ЛіМа", "Савецкай Беларусі", "Звязды", "Чырвонай змены", альманаха "Аднагодкі" (дзе, дарэчы, дэбютаваў і П. Панчанка), "Беларускай работніцы і сялянкі", "Паляўнічага Беларусі". Яны былі заўважаны літаратурнай грамадскасцю, што акрыліла маладога паэта, надала творчага імпэту, добрых спадзяванняў ("Поўнілася сэрца маё песняй, і не ведаў, дзе я — на зямлі ці ў храме..."). Сяднёў ужо мог прызнацца самому сабе: "Скарб я маю багаты, ён завецца доляй паэта". Аднак гэты скарб і быў асноўнай прычынай тых няшчасцяў, якія ўварваліся ў свет юнацкага жыцця, у свет паэзіі, што толькі прыадчыніўся перад ім.

Зведаўшага "творчасці святыя мукі" і гэтым шчаслівага 22-гадовага паэта, выпускніка педінстытута, у ліку 12 найбольш здольных студэнтаў арыштавалі ў кастрычніку 1936 (рэабілітавалі толькі ў 1992), абвінавацілі ў нацдэмаўшчыне і ў тым, што распаўсюджваў "упадніцкія творы Пушчы і "Матчын дар" Алеся Гаруна". Пачаліся змрочныя турэмныя дні, допыты, перасыльныя лагеры, Калыма — этапы, па якіх М. Сяднёў ішоў разам з многімі беларускімі пісьменнікамі — Б. Мікулічам, С. Баранавых, У. Клішэвічам, Т. Лебядой (П. Шырокаў), Я. Скрыганам, А. Звонакам, У. Хадыкам і іншымі нявольнікамі.

Да вайны ён адбыў 4 гады на Калыме. Прывезены ў Мінск у 1941 годзе на перагляд справы, ён атрымаў нечспадзяваную волю, дзякуючы вайне (нямецкія самалёты бамбілі Мінск, дарогу на Магілёў, па якой гналі калону зняволеных з мінскай турмы, ішлі бежанцы). Вярнуўшыся ў Мокрае, М. Сяднёў працаваў на бацькавай гаспадарцы, не прымаючы ўдзелу ў вайне ні з якога боку. У 1944 годзе вымушаны эмігрыраваць, апасаючыся за сваё жыццё, бо афіцыйна не быў вызвалены з савецкай турмы. (Дарэчы, М. Сяднёў паслужыў для эпапеі Івана Чыгрынава "Плач перапёлкі" прататыпам аднаго з галоўных герояў — Масея, сына Зазыбы). Жыў напачатку ў Польшчы, Германіі. З 1951 года жыве ў ЗША, стаў амерыканцам беларускага паходжання. Але ўсе гэтыя незвычайныя перыпетыі яго лёсу не вытруцілі пачуцця любові і павагі да Бацькаўшчыны, ёй прысвяціў паэт сваю творчасць, якая сёння арганічна ўпісваецца ў сучасную мастацкую літаратуру.

Гісторыя шматпакутнага беларускага народа не абыходзілася без таго, каб за кратамі, у турмах не пабывалі многія таленавітыя яго сыны, асабліва ў гады сталінскіх рэпрэсій. Яны пакінулі шматлікія творы аб перажытым — паэтычна-праўдзівыя дакументы эпохі. Тым большую каштоўнасць мае турэмная паэзія М. Сяднёва. У ягонай памяці захаваліся ўсе вершы, складзеныя падчас знаходжання ў мінскай турме, перасыльных канцлагерах Сібіры, пры пераездзе ў закратаваных вагонах праз Байкал, на пераплаве ў Ахоцкім моры, па дарозе на Калыму, у жудасных умовах Калымы. Яны ўвайшлі потым у кнігу "Патушаныя зоры". Лірыка гэтага часу напоўнена горкім смуткам і трагізмам ("Дай успомню пражытае мною, можа будзе на сэрцы лягчэй, мо забуду, што змрочнай турмою патушылі празрыстасць вачэй...", "Песня мая, ты не мучайся болей, волі не мае твой ціхі паэт", "Захапіўся песняй я сваёю, падкаваў я рыфмай чарадзейку. Толькі ж грымнула над галавою: "Згінеш ты, Майсей, ні за капейку". Я ў няволі. Маці, мая маці, ну нашто дала ты мне жалейку?"). Асабліва кранаюць сваёй эмацыянальнасцю, яскравым вобразным самавыяўленнем такія вершы, як "Зманлівасць", "Мара", "Домік у Менску" (пазней быў пакладзены на музыку кампазітарам А. Карповічам), "Маім бацьком" ("Родныя, не плачце пры ўспаміне — не загіне ваш бяздомны сын: Я прыйду з далёкае чужыны, змучаны выгнаннем, на спачын..."), публіцыстычна-завостраныя, прасякнутыя антысталінскім пафасам вершы — "Крывічом", "Правадыр на трыбуне", "Крывавы цар". Моцны духам паэт, адчуваючы сваю перавагу над турэмшчыкамі ("Хоць ціхі я, ды ўзлёт паэта за вас, высокіх, многа вышай..."), змог вызначыць для сябе адзіна правільную лінію паводзін — "Я сам сабе адзін вялікі", — і гэтае адчуванне дапамагло выстаяць, зберагчы чалавечую годнасць. "Я жыў паэзіяй, паэзія давала мне крылы, глушыла боль, — успамінаў М. Сяднёў. — Як, дарэчы, і ў сталінскіх турмах, на Калыме. Каб, здаецца, не вершы — не жыў бы..."

Паэзія дапамагала яму перажыць і трагедыю выгнання, асабліва ў першыя пасляваенныя гады. Аднак ці лягчэй стала сэрцу, калі раскутая песня стала вандроўнай, страціла Радзіму? З аднаго боку, маладосць, свабода, незвычайныя ўражанні ад сустрэч з "Эўропай — старой дамай", з новымі цікавымі людзьмі, магчымасць друкавацца на роднай мове ў беларускіх эміграцкіх выданнях, з другога — развітанне з Радзімай, блізкімі, пачуццё непрыкаянасці, адарванасці ад звыклага, перапады настрою, матэрыяльныя нястачы, словам, "дзве душы ў маёй душы адной між сабой змагаюцца бесперапынку"... У такой раздвоенасці яго падтрымлівала вера ў гістарычную справядлівасць, і ён пісаў, углядаючыся ў родную далеч:

**Не сумуй, Беларусь,**
**ты блакітнаю казкаю**
**і снягамі ў палёх не імжы.**
**Да цябе яшчэ прыйдзем,**
**каб сілаю наскаю**
**здолець тых, што распялі**
**цябе на крыжы...**

У гэты перыяд М. Сяднёвым былі створаны вялікія цыклы вершаў: "На маршрутах" (вызваленне з турмы, радасць вольнага свету), "Як спажытак штодзённы" (расстанне з Радзімай, адчуванні эмігранта-выгнанніка), "Роздум" (роздум над сваім уласным лёсам і лёсам Бацькаўшчыны), "Слова" (прызначэнне паэта і паэзіі), "На спынку" (імкненне асэнсаваць лепшае з сусветнай паэзіі, пераклады з Гётэ, Гейнэ, Рыльке, паэмы "Мая вайна", "Цень Янкі Купалы", "Забраны Мінск", "Смерць музыкі"). Усе яны пазней увайшлі ў кнігу "Патушаныя зоры" і нават з першага погляду даюць уяўленне, які адметны, цікавы і глыбокі змест паэзіі М. Сяднёва, які разнастайны стылёвы дыяпазон, дзе паэт выступае лірыкам, філосафам, публіцыстам, майстрам медытацыі, оды, элегіі. Украінскі паэт Леанід Палтава, які шмат перакладаў Сяднёва на украінскую мову, лічыў, што "Патушаныя зоры" — новая, расквітнеўшая зара вольнай беларускай паэзіі.

Аднак найбольш плённымі ў творчых адносінах былі для М. Сяднёва 80-я гады, калі ён пераехаў на пастаяннае пражыванне ў Глен-Коў, ціхі, багаты, прыгожы гарадок на беразе акіяна (штат Нью-Йорк). І хоць, па яго ўласнаму прызнанню, ён адчувае сябе тут як у ізаляцыі — далёка ад Радзімы, амерыканскіх беларусаў-землякоў, але пісаў і піша вельмі шмат, творчае гарэнне яго не паслабляецца. Тут напісаны і выдадзены такія яго кнігі, як паэтычныя зборнікі "Ачышчэнне агнём", "А часу больш, чым вечнасць", раманы "Раман Корзюк" (быў выдадзены ў Мюнхене Барысам Кітам, славутым беларускім вучоным на эміграцыі, даўнім сябрам М. Сяднёва ), "І той дзень надыйшоў", "Выбранае" — пераклады твораў М. Сяднёва на украінскую мову, "Очищение огнём" — пераклады В. Крэйда — рускага паэта на эміграцыі, вершаў М. Сяднёва на рускую мову. У Глен-Коў напісана "Масеева кніга", куды ўвайшлі іранічныя біблейскія вершы, артыкулы, публіцыстыка, перапіска М. Сяднёва з беларускімі пісьменнікамі — плён апошніх гадоў.

Але гэтаму перыяду папярэднічалі гады фізічнай працы на фабрыцы, куды ён уладкаваўся пасля пераезду ў Амерыку (1952—1960), выкладчыцкая работа ва універсітэце Індыяна (1960—1967), горад Блумінгтон, дзе М. Сяднёў, навучаючы студэнтаў рускай мове і літаратуры, адначасова вучыўся сам, атрымаў "Дыплом Універсітэта Індыяна" і ступень магістра гуманітарных навук па славянскай літаратуры і філалогіі. Да гэтага часу ён ужо добра валодаў нямецкай, англійскай мовамі, не кажучы пра польскую, рускую, украінскую, беларускую. У 1967 годзе амерыканскія ўлады прапануюць яму работу на радыёстанцыі "Свабода" ў Мюнхене, дзе ўн працаваў да 1983 года, узначальваў беларускую рэдакцыю. Мюнхенскі перыяд быў плённым у сэнсе агульнай адукацыі, М. Сяднёў у арыгінале перачытваў Гётэ, Гейнэ, Гельдэрліна, Наваліса, Мёрыке, да таго ж Мюнхен славуты сваімі музеямі, цэрквамі, саборамі, старажытнай архітэктурай. Амаль штогод былі цікавыя падарожжы па Еўропе (Італія, Іспанія, Англія, Грэцыя, Аўстрыя, Польшча). М. Сяднёў дыхаў гэтай чужой, але надзвычай багатай культурай, упітваў лепшае, рос духоўна, што дало свой выдатны плён. Лірыка М. Сяднёва пазнейшага перыяду, сабраная ў кнігах "Ачышчэнне агнём", "А часу больш, чым вечнасць", асабліва такія цыклы вершаў, як "Слова", "Уяўленне", "Прароцтва Сывілаў", "Санэты", — гэта вызначэнне яго духоўнай біяграфіі, адкрытасць душы праз ачышчэнне словам. ён імкнуўся ўвесці ў беларускую паэзію тэмы, звязаныя з лепшымі традыцыямі сусветнага мастацтва, з вобразамі класічнай паэзіі: Прыродай, Зямлёй, Вадой, Небам, Месяцам, Зорамі, Домам, вольналюбівым Духам. У яго вершах мы часта бачым прыроду, яе элементы, адлюстраваныя ў цесным спалучэнні з душэўным станам паэта, што сведчыць аб своеасаблівым пантэізме, рамантычным успрыманні рэчаіснасці.

Вядома ж, паэтычнаму майстэрству М. Сяднёў вучыўся на лепшых узорах айчыннай і сусветнай класікі. ён пайшоў Багдановічавым следам у справе служэння непадкупнай Музе — раскрываў духоўны свет чалавека, адвечныя паэтычныя тэмы, не адыходзячы ад нацыянальнага і рэальнага жыцця. Еўрапейская паэзія М. Сяднёва ўзрасла на беларускай глебе, жывіцца яе сокамі, вобразамі, тэмамі. Паказваючы свет у вобразах нябеснай і зямной красы, ён імкнуўся раскрыць высокую духоўнасць свайго героя праз чыстую, узвышаную лірыку, і тут мы бачым, наколькі цесна паэт і яго лірычны герой узаемазвязаны. Магчыма, гэтым імкненнем выклікана жаданне бліжэй пазнаёміцца з еўрапейскай класічнай паэзіяй, зведаць таямніцы вобразна-эстэтычнага, гарманічна-цэласнага свету культуры. І найбольшы, найвышэйшы паэтычны ўзлёт адчуваецца ў сяднёўскіх вершах, дзе перадаюцца перажыванні, роздум аўтара аб жыцці і смерці, вечнасці, прыродзе, каханні, сяброўстве і дзе назіраецца той неабходны паэтычны універсалізм, які спалучае духоўнасць, пасіхалагізм, эмацыянальнасць. Звычайна асноўная сутнасць, галоўная ідэя такіх вершаў, іх развязка выказваецца ў канцы, у апошніх 2—3 радках — гэта тая самая гейнаўская пуанта, пра якую гаварыў, аналізуючы творчасць М. Сяднёва, украінскі літаратуразнавец, крытык, прафесар Юры Шэрах. Побач з гэтым інтуітыўным пачаткам у вершах ёсць і тое, за што украінскі паэт Яр Славутыч назваў М. Сяднёва паэтам думкі.

"Пранікненне ў таямнічасць прыроды Беларусі, — адзначаў прафесар Мюнхенскага універсітэта Ю. Бойка-Блахін, — эротыка, напоўненая ідэалістычнымі тонамі, рэфлексія, упрыгожаная ціхай засмучонасцю над недасканаласцю чалавека, — матывы паэзіі М. Сяднёва. У сваёй паэзіі М. Сяднёў чулы, засяроджаны, глыбокі лірык. Нават у кароткім вершы ён можа выказаць глыбокае пачуццё, філасофскі роздум, абагульненне. Кожным сваім творам ён змушае нас сур'ёзна задумацца над сэнсам нашага існавання, адносінамі паміж людзьмі, над стаўленнем да добрага і злога, над жыццём і смерцю, над вечнасцю. У яго вершах мы заўважаем гранічную адкрытасць, мужнасць і сілу, што прываблівае чытача сваім гарманічным гучаннем, запальвае вашу фантазію".

І ўсё ж пры багатай разнастайнасці тэм, матываў, лірычных вобразаў праз творчасць М. Сяднёва праходзіць адна нязменная тэма — Бацькаўшчына.

Беларусь, маці, мова, прызначэнне паэта — вось тэмы, якія найбольш дакладна і яскрава перадаюць сутнасць яго творчасці, раскрываюць вобраз паэта, прысвяціўшага сваё жыццё Радзіме і мастацтву. "Чым для мяне з'яўляецца Беларусь? — выказвае свае запаветныя думкі М. Сяднёў. — Без яе я не мог бы ўявіць сябе як паэта, жыць давялося мне вонках яе, але сама гэтая акалічнасць можа нават стымулявала інтэнсіўнасць майго творства, ці лепей — пульс яго можа быў дзеля гэтага больш напружаным. А што тычыцца мовы, дык яна была не толькі сродкам, а нечым больш. Душой. Лекамі ў найцяжэйшыя часы. Я прыйшоў з ёй у гэты свет, нідзе з ёй не разлучаўся, яна была маёй духоўнай спадарожніцай. Мова і я — гэта адно. Без яе няма чалавека". ён лічыць, што няма мовы — няма народа, няма Бацькаўшчыны. Нягледзячы на тое, што амаль пяцьдзесят гадоў прайшло з моманту развітання з Радзімай, Сяднёў па-ранейшаму "бы з сабою ў змове, думае толькі ў сваёй роднай мове". Беларускую мову паэт збярог, па яго ўласных словах, "дзякуючы таму сумнаму факту, што амаль паўстагоддзя я не жыў на радзіме і не быў, такім чынам, падуладны працэсу асіміляцыі, працэсу дэнацыяналізацыі, які адбываўся і адбываецца цяпер у Беларусі і які захапіў усе слаі насельніцтва, у тым ліку — і, можа, найбольш, інтэлігенцыю. Я, так бы сказаць, вывез з сабою беларускую мову ў ейнай "чысціні", яшчэ не сапсаваную, такой, якой вывучаў яе ў школе, успрыняў ад нашых класікаў, пазнаў інтуітыўна. З такой закансерваванай, зберажонай мовай я й жыў увесь час, ёю карыстаўся, на ёй пісаў, яна была ў мяне адзіным сродкам выяўлення сябе...".

Відаць, у характары, таленце

**НА ЗДЫМКАХ: жнівень 1991 года. Морган-парк, Глен-Коў. В. і М. СЯДНЁВЫ; разам з паэтэсай Наталляй АРСЕННЕВАЙ.**

# ДА 80-годдзя Масея СЯДНЁВА

М. Сяднёва быў закладзены выключна моцны спадчынна-беларускі генетычны код, калі сваю вернасць Бацькаўшчыне, роднай літаратуры, нацыянальным матывам ён пранёс, захаваў ва ўсе гады выгнання. ("Уносіў гэтым долю сваю для ўсіх дабра. А болей... Што ж там болей жадаць ад песняра?!" Я. Купала).

Радзіма паўставала для паэта-выгнанца ў двух абліччах — светлым і змрочным, але светлае перамагала, і гэтым жывілася непарыўная духоўная сувязь з ёю, на гэтым светлым адчуванні будаваліся сюжэты твораў, раскрываліся паэтычныя тэмы, звязаныя з эміграцкім лёсам: тэма Беларусі, нацыянальных традыцый, часта сентыментальныя вершы, звязаныя з успамінамі аб вясковым дзяцінстве, юнацтве, родных пейзажах і побач матывы адзіноцтва, тугі, бяздомнасці, безнадзейнасці, якія цягнуць другую, блізкую тэму — вечнага вандравання як адзнакі не столькі фізічнага, колькі душэўнага стану. Але гэты настальгічны стан садзейнічаў таму, што памяць сталася жывой, невычэрпнай крыніцай, якая спалучыла мінулае і сённяшняе і ў выніку прывяла да стварэння сапраўднай паэзіі. Многія вершы, прысвечаныя роднаму краю, маглі быць створаны толькі ў далечыні ад яго ("Мне Бацькаўшчына мроілася ў снах, прыглушаная гвалтам, здзекам і бядою. Я песьнямі адзначыў свой пакутны шлях, я сумам напаіў свой верш, нібы дзіця вадою..."). У вершах "Хусцінкі", "Сум", "Вечар", "Сон", "Адзіноцтва", "Відзенне Бацькаўшчыны", "Суродзічы мае" і інш. раскрываецца светаадчуванне чалавека, для якога страта айчыны раўназначна страце ўсяго лепшага ў жыцці, нават паэтычнага натхнення ("Для песні радок здабываю няёпэёнена, рэдка, скупа..."). І толькі калі Бацькаўшчына "хлыне ў сэрца", адбываецца сапраўдны цуд, высокі паэтычны ўзлёт. У М. Сяднёва Беларусь, якой яна мроілася паэту ў далёкім замежжы, бачыцца незвычайна прываблівым, незабыўным і любімым кутком зямлі. ён знаходзіць для яе апісання прыгожыя эпітэты, параўнанні, раскрывае яе вобраз такім беларускім словам, якому падуладны самыя разнастайныя адценні эмацыянальнай палітры нацыі.

**Цяпер на бацькаўшчыне**
**ўжо марозы**
**кладуць узор на**
**ранішнім лядку.**
**Падпаленыя восеняй бярозы**
**усьцяж гараць на бальшаку...**

Асабліва высокім паэтычным натхненнем, любоўю, эмацыянальным напалам прасякнуты ўспаміны М. Сяднёва пра маці, яе нястомныя рукі (паэма "Кросны"), заўчасную, цяжкую і страшную смерць ад партызана, аднавяскоўца-суседа (паэма "Мікола Бугроў"), пра бацьку і сясцёр, родную вёску. ("Журботныя ў мяне матывы і згадак шмат пра Беларусь... Макранскія прыпамінаў я нівы і матчын на стале абрус..."). На працягу ўсіх эміграцкіх гадоў толькі Бацькаўшчыне нясе паэт сваё гора і радасць ("Табе аднэй пажалюся я горам: мне сумна, што ты ёсць, смяртэльна, што няма...", "Сьпяць акіяну твайго воды, як сон, варочаецца імгла. Нашто, скажы, між Захадам і Усходам вачыма сінімі ты прарасла?..."). Усе вершы, прысвечаныя Беларусі, поўняцца шматгадовай настальгіяй чалавека, у думках ніколі яе не пакідаўшага. Ён гатовы збудаваць помнік для свайго народа ("Узняўшыся над галавою цемрашалаў, каб ён зіхцеў із роду ў род Ты заслужыў і гонар і пашану малы — вялікі мой народ..."). Аўтар сцвярджае ў вершы "Беларускім паэтам", верачы ў духоўныя сілы народа, што "была ад веку на музыкаў і паэтаў не беднай беларуская зямля". ("Таксама ведама: звялося іх нямала, у беспрасветнай згінула начы, Нам талентаў хіба хапала — ня ўмелі іх мы толькі берагчы...").

М. Сяднёў надзвычай патрабавальны да сябе як да паэта, да сваёй песні, "бо я сэрца і розум ёй аддаў, сябе ўсяго і беззвароту...". Яго "зямныя песні і лірычнае адтварэнне перажытага" (У. Глыбінны), трывога за мову, захаванне ўсяго лепшага, таленавітага ў народзе перарастаюць у далейшай творчасці ў роздум аб жыцці наогул, лёсе чалавека ў ім, аб прызначэнні паэта і паэзіі. Дарэчы, у творчасці М. Сяднёва няма ніякіх ідэалагічных напластаванняў, нарматыўнасці, псеўдагераізацыі, лакіроўкі, за якімі не відаць чалавека, няма "вырашэння праблем", прысвячэння нейкім зададзеным тэмам, правадырам, чырвоным датам, яна не лунае ў высокія міражы і недасягальныя для чытача пошукі незвычайнай формы і шматступенных асацыяцый, вычурнай метафарычнасці. Усё, пра што хоча сказаць паэт, арганічна і лёгка выцякае з яго душы. І найбольш глыбока і ўсебакова праяўляецца яго талент у малой вершаванай форме, у лірыцы. Гэта перспектыўная творчая заваёва аўтара. Менавіта ў вершах поўна і свабодна раскрываецца духоўнае жыццё паэта, яскрава прасочваецца ўзбагачэнне эмацыянальнай мастацкай палітры. ён імкнецца апяваць прыгожае, вечнае, як вынік высокага духу. Паэт піша, "захоплены свабодай выяўлення пра ўсё, што выспела ў маёй душы і што згаджаецца з маім сумленнем..." Гэта яго паэтычнае крэда. Ён ідэйны ў той ступені, як ідэйны Максім Багдановіч, які не прымаў павярхоўна-тэндэнцыйнай "ідэйнасці", што не бярэ ў разлік абавязку мастацтва ўзвышаць чалавечае ў чалавеку, даваць яму адчуванне асабістай адказнасці за стан свету.

Задумваючыся над імкліва праляцеўшымі гадамі, М. Сяднёў выказвае думку: можа лепей было б хадзіць за плугам, чым быць паэтам, не было б столькі пакут у жыцці, не зведаў бы турэмныя этапы, не страціў Радзіму? ("Каму ўсе радасці жыцця, лірычных песень згукі, — не для пацехі й забыцця — мне песьня дадзена для мукі").

І ўсё ж паэзія — яго прызванне, яго высокі талент. З гадамі да эмацыянальнасці ў творчасці М. Сяднёва дадаліся рацыянальна-аналітычнае, філасофскае асэнсаванне рэчаіснасці, душы чалавека. Звычайна ў лірычным вобразе выступаў вясковы юнак, студэнт, зняволены, выгнанец, а пазней — сталы чалавек, які задумваецца над пытаннем: ці так жыў, што зрабіў для Бацькаўшчыны? Жыццё, якім бы цяжкім яно ні было, дае сапраўднаму мастаку і патрэбны вопыт, і сюжэты, і неабходныя для творчасці хвіліны паэтычнага ўздыму. М. Сяднёў зведаў, што такое страх, рэпрэсіі, выгнанне, душэўныя пакуты, якіх яны могуць дасягнуць памераў, і ў той жа час умеў радавацца жыццю, яго самым разнастайным праявам. Можа таму яго лірычныя вершы — гэта цэласныя творы, якім уласціва завершанасць адлюстраванай у іх карціны жыцця, што трымаецца на канфліктнасці пачуццяў, руху думак, абвостранасці перажыванняў. У яго разуменні літаратура не можа быць утылітарнай, бо да той пары, пакуль яна будзе "служыць", яна і будзе служкай, а не самастойнай стыхіяй, зямлёй і небам нашай нацыі. І беларускіх паэтаў ён заклікаў: "Паэты беларускія, дужэйце! Вы спраглых душ валадары. Прыкмецяць вас на цэлым свеце, калі не будзеце служыць вы пры двары..." Сам М. Сяднёў, які мысліць шырока і незалежна, усё сваё жыццё служыў паэтычнаму Слову, дзеля якога пакутаваў за кратамі, на алтар Слова паклаў ахвяры. Яго творы апошніх гадоў — гэта водгулле жыцця паэта, які ўвайшоў у сваю восеньскую пару, які поўніцца жаданнем:

**Каб пры канцы шляхоў**
**маіх далёкіх,**
**што не ўкладаюцца ні**
**ў вёрсты і ні ў мілі,**
**не помнячы грахоў**
**і крыўдаў лёгкіх,**
**прыхільныя багі мяне**
**благаславілі...**

Ад прачулых вершаў, прысвечаных роднай Беларусі, лірычнай медытацыі, філасофскай напоўненасці ў роздумах сталага паэта — да зусім даверлівага, спакойнага тону ў вершах 80-х гадоў — ва ўсім гэтым адчуваецца свая, толькі творчай індывідуальнасці М. Сяднёва ўласцівая сістэма гармоніі, якая выліваецца ў суладдзе формы і ўнутрана скандэнсаванага, напружанага зместу. З аднаго боку, у душы паэта па-ранейшаму "грае вячыстасць клёнаў", жыве ўлюбёнасць у жыццё, трывожыць нязгасная памяць, з другога: "Хаджу павольней. Нікуды не рвуся. Мой хлеб надзённы ў мяне ёсць. Ды ўсё ў сібірскай завірусе ад холаду мая танцуе маладосць"...

**З вітком гадоў ступаю**
**усё цяжэй,**
**як бы ўзбіраюся я на гару.**
**З вітком гадоў раблюся**
**ўсё цішэй,**
**не палымнею сэрцам,**
**не гару.**
**Іду, узбіраюся. І за спіной**
**увесь набытак свой нясу.**
**Нічога не пакінуў за сабой —**
**усё ўзяў: няўдачы,**
**роспач, сум...**

І ўсё ж набытак Сяднёва-паэта не толькі "няўдачы, роспач, сум". Яго творчасць становіцца нашым нацыянальным духоўным багаццем. Калісьці ён выказаў патаемную думку, што яму хацелася б так "уваскроснуць, як Максім Багдановіч, Колас, Купала", і ў гэтым жаданні няма нічога ад манумента самому сабе, яму надзвычай важна прызнанне Радзімы! Сёння ён вяртаецца на Бацькаўшчыну не толькі як паэт, але і як празаік. Адзін з лепшых яго раманаў "І той дзень надыйшоў" у перакладзе на рускую мову друкаваўся ў часопісе "Нёман" (1991), выйшаў асобным выданнем (у кнізе выбранай паэзіі "Патушаныя зоры" — Мінск, 1992).

Раманы М. Сяднёва "І той дзень надыйшоў", "Раман Корзюк" звязвае агульны ўнутраны сюжэт, агульная тэма, дакладная назва якой — чалавек, лёс, абставіны ў апошняе сямідзесяцігоддзе нашай гісторыі.

Паступова разгортваецца перад намі эпоха 30—40 гадоў, адна з самых трагічных, бо прыйшліся на яе сталінскія рэпрэсіі, Вялікая Айчынная вайна, якія прынеслі краіне незваротныя страты, вынішчэнне цвету нацыі. Галоўны герой раманаў — персанаж, што амаль супадае з вобразам аўтара, у той жа час нясе ў сабе шырокія абагульненні, увасабляе лёсы многіх сучаснікаў, якія спаўна зведалі на сабе, што такое ГУЛАГ, сталінізм і фашызм. Аўтабіяграфічная аснова прозы М. Сяднёва, як і яго паэзіі, толькі падкрэслівае, што ў прыватным лёсе відаць праяўленні больш агульнага "працэсу", які захліснуў усю краіну ў 30-я гады, прымусіў цэлыя пакаленні жыць у перавернутым, няпраўдзівым свеце.

Раманы выйшлі амаль адначасова, хоць выспявалі і пісаліся працяглы час. Аднак, калі "Раман Корзюк" — тварэнне халоднага розуму і разваг, то "І той дзень надыйшоў" — тварэнне сэрца, душы, эмоцый. "Раман Корзюк" пісаўся на працягу 27 гадоў з вялікімі перапынкамі. У прадмове да твора сам пісьменнік вызначае, пра што гэта кніга: "Усё пра той жа беларускі нацыяналізм, пра "нацдэмаўшчыну" і пра "нацдэмаў", пра змаганне з імі савецкіх органаў бяспекі...". У наш час, калі для даследчыкаў рэпрэсіраванай беларускай літаратуры адкрыўся доступ у архівы НКВД-КДБ, даводзіцца толькі здзіўляцца, як дакладна перададзена аўтарам сутнасць мадэліравання нацдэмаўскіх працэсаў, разгадана злачынная надуманасць, фальсіфікацыя тэарэтыкамі НКВД таго, што яны вытваралі з лепшымі прадстаўнікамі нацыі, як здзекаваліся, прыніжалі іх чалавечую годнасць. М. Сяднёў адзін з першых у беларускай літаратуры напісаў пра гэта, не баючыся ніякай цэнзуры і забароненых тэм. У эміграцыі ёсць яшчэ ўспаміны А. Калубовіча ("На крыжавой дарозе") і Я. Германовіча-Адважнага ("Кітай, Сібір, Масква"), многія апавяданні Іны Рытар-Саковіч пра той страшны перыяд. У нас толькі цяпер пачынаюць з'яўляцца ўспаміны, мастацкія творы айчынных пісьменнікаў, якім пашчасціла выжыць, прайшоўшы апраметную допытаў, турмаў, канцлагераў. "Раман Корзюк" стаіць у шэрагу такіх твораў, як "Споведзь" Ларысы Геніюш, "Зона маўчання" С. Грахоўскага, "Мая Галгофа" Я. Бяганскай, "Аповесць для сябе" Б. Мікуліча, "Алесь Няміра" Л. Случаніна (Шпакоўскага).

Уласны жыццёвы вопыт, успаміны пра маладыя гады, перажытае пакладзены М. Сяднёвым і ў аснову рамана "І той дзень надыйшоў", дзе раскрываецца даваенны і ваенны перыяды жыцця беларускай вёскі. У творы адчуваецца асаблівая непасрэднасць, шчырасць, малады погляд на свет, людзей, падзеі. Увесь час суперажываеш герою, яго чалавечнасці, імкненню пазбегнуць усялякіх канфліктаў, яго добрай працавітай сям'і, першаму, юнацкаму каханню. Ён сялянскі сын, студэнт педінстытута, пажыўшы ў горадзе, быццам новымі вачыма ўспрымае вясковае жыццё, яго адвечны працоўны кругазварот. Але самыя лепшыя, эмацыянальныя старонкі рамана прысвечаны асабістаму жыццю герояў, іх узаемаадносінам, каханню, хаця з не меншай цікавасцю чытаюцца і тыя, дзе раскрываецца атмасфера 30-х гадоў, добра вядомая аўтару: насцярожанасць, падазронасць, забароненыя беларускія пісьменнікі, уся віна якіх была ў тым, што яны думалі, пісалі на беларускай мове, і партрэты якіх выкрэсліваліся са школьных падручнікаў. З тонкай іроніяй паказана аўтарам сцэна сходу калгаснікаў, на якім зачытваецца пісьмо вялікаму Сталіну — бацьку ўсіх народаў, і, наадварот, з горыччу і болю малюе пісьменнік сцэну настаўніцкай канферэнцыі, дзе афіцыйна ішла размова аб непатрэбнасці вывучэння беларускай мовы, літаратуры, гісторыі. Раманы М. Сяднёва цікавыя і незвычайныя для беларускай прозы, таму што другі галоўны герой твораў — эпоха — паказаны глыбока і ўсебакова, у тых невядомых праяўленнях, пра якія ўсе ведалі і пра якія не асмельвалася пісаць літаратура сацыялістычнага рэалізму ў былым Савецкім Саюзе.

Акрамя гэтых вялікіх празаічных твораў, М. Сяднёў надрукаваў шмат публіцыстычных артыкулаў, у якіх выказвае тое, што яго асабліва хвалюе апошнім часам. Ён піша і крытычныя артыкулы, нарысы, эсэ, выдаў цікавыя ўспаміны пра беларускіх пісьменнікаў 20—30-х гадоў, напісаў праблемныя артыкулы пра стан сённяшняй беларускай літаратуры, мовы, творчасць маладых беларускіх паэтаў.

І ўсё ж М. Сяднёў найперш — паэт божай міласцю. Украінскі паэт і крытык Л. Палтава, высока ацэньваючы творчасць М. Сяднёва, лічыў, што ў яго паэзіі "перапляліся таленты — саркастычны Гейнэ і Шылера, непасрэдна-шчыры, выраслы з народных глыбінь і таму глыбокапатрыятычны Я. Купалы і Я. Коласа, філасофска-лірычны Генры Лангфела і Цютчава, хоць М. Сяднёў — поўнасцю самабытны аўтар". "Лічу Вас лепшым паэтам беларускім", — пісаў М. Сяднёву В. Крэйд, адзначаючы, што паэзія яго вытрымала выпрабаванне на мастацкую сталасць, бо яна здолела спасцігнуць глыбіню духоўнай драмы чалавека, адарванага ад Радзімы. Беларускаму чытачу творчасць М. Сяднёва найбольш блізкая нацыянальнымі рысамі. Яна мае шмат агульнага з творчасцю лепшых паэтаў Бацькаўшчыны. Яго паэзія, выйшаўшы з сялянскага абмежаванага кола, уздымаецца да вышынь духоўнасці, мастацкасці, разумення сілы паэтычнага слова, яго незвычайнага ўздзеяння на чалавека. Патрыятычныя матывы — любоў да Радзімы, неабстрактная любоў да маці, яе вобраз, пяшчотны, трагічны, прачула паказаны і ў паэзіі М. Сяднёва, і ў сучаснай айчыннай паэзіі і прозе. Матывы асабовай лірыкі — лёс чалавека і свету, лёс Бацькаўшчыны, пошукі свайго дому, сваіх нацыянальных каранёў, неспакой за стан роднай мовы, беларускага Адраджэння, зварот да нядаўняй і далёкай гісторыі — усё гэта ёсць у паэзіі М. Сяднёва і ў сённяшняй беларускай паэзіі, у творчасці лепшых яе прадстаўнікоў. І менавіта цяпер, калі ўяўленні нашы аб творчасці М. Сяднёва ўзбагаціліся праз даступнасць ягоных кніг, стаў вымалёўвацца воблік таленавітага паэта як з'явы беларускага літаратурнага замежжа.

**Захоплены, я кожны дзень**
**сябе радкамі выкладаю,**
**хачу уваскрасіць, што**
**ў самаце**
**мяне трывожыла гадамі.**
**Хвалююся, сумую і пішу,**
**натхненне пераводжу**
**ў форму.**
**А мо калісь чыюсь душу**
**кране мой верш**
**нерукатворны...**

**Лідзія САВІК.**



**Провады Масея СЯДНЁВА ў Мінскім аэрапорце-2 пасля Першага з'езда беларусаў свету 23 ліпеня 1993 года.**
**НА ЗДЫМКУ: Б. САЧАНКА, М. СЯДНЁЎ, Л. САВІК і С. САЧАНКА**
**Фота Віктара СТАВЕРА.**

## ЛІСТКІ З КАЛЕНДАРА




**26 верасня, нядзеля**

### УШАНАВАННЕ ЗМЕЙ БЕЛАРУСАМІ

У нашых продкаў яшчэ з часоў паганства існаваў культ змей. Змей і баяліся, і ў той жа час ушаноўвалі, чакалі ад іх спрыяння ў розных справах. На думку некаторых даследчыкаў міфалогіі, змей асацыіраваўся з урадлівасцю, зямлёй, жаночай плоднасцю, вадой, дажджом, а з другога боку — з хатнім, нябесным агнём. У старажытным Міжземнамор'і змяя была атрыбутам як божышчаў урадлівасці, так і багінь смерці. У паданнях паўночнай Беларусі расказваецца пра вогненнага цмока, які крадзе ў суседзяў і прыносіць свайму гаспадару ўсякае багацце. На Мядзельшчыне такую істоту называлі хут. Лічылася, што хут прыносіць у дом гаспадара снапы з чужых палеткаў і золата з невядомых скарбаў. Вечарам можна бачыць, як ён, вогненны, рассыпаючы іскры, ляціць па небе. Хут жыве на гарышчы, можа ператварацца ў корч, палена, старое кола і г.д. У Гарадоцкім раёне запісана паданне пра страшыдлу змея, які наносіў шкоду людзям. Змея звязалі, але забіць не здолелі. Тады яго паспрабавалі закапаць у зямлю. Але пасля кожнай спробы зямля аказвалася раскіданай, і змей мог парваць путы. Таму па мудрай парадзе аднаго чалавека запрэглі ў стары лапаць чорнага пеўня, прывезлі здалёку тройчы па поўнаму лапцю зямлі і пачалі пасыпаць страшыдла. Ад першай жа жмені той зямлі змей страшэнна зароў і задрыжаў, а развернутая ім раней зямля пачала насоўвацца і закрываць яго. У іншых паданнях гаворыцца пра тое, што забітага змея трэба рассекчы на тры часткі, закапаць іх асобна адну ад другой.

У час археалагічных раскопак у паўночнай частцы Беларусі неаднаразова знаходзілі металічныя ўпрыгажэнні з галоўкамі, якія нагадвалі змей. На адным баку манетападобных па форме амулетаў — "змеевікоў" была хрысціянская сімволіка, на адваротным — выява клубка змей і кругавы надпіс з закляццем ад хвароб і няшчасцяў. Згодна са старажытным светаўспрыманнем, змяя лічылася апякункай ачага, захавальніцай сям'і, дому і кожнага чалавека, а таксама магла ўвасабляць продкаў-апекуноў. Доўгі час у беларусаў, літоўцаў і латышоў існаваў звычай трымаць дома і карміць вужоў, што павінна было выклікаць прыхільнасць багоў да гаспадара.

Эдвард ЗАЙКОЎСКІ.

**30 верасня, чацвер**

### БАБІНА ЛЕТА

*(Міфы і рэчаіснасць)*

Залатая восень... Якіх толькі трапных эпітэтаў і метафар ні прыдумалі паэты і пісьменнікі, каб найбольш яскрава ахарактарызаваць гэтую пару года. Нават зацяжныя дажджы або густыя ранішнія туманы не здольны затрымаць моцнай плыні развітальных сонечных праменняў на зямлю — прыходу бабінага лета. Працягласць гэтага перыяду, як і пачатак яго, у розныя гады бывае розным.

З навуковага пункту гледжання, бабіна лета — першы асенні перыяд з устойлівым антыцыклanічным надвор'ем, калі начное астуджэнне глебы і паветра яшчэ не вельмі моцнае, а дзённы прагрэў хоць і адчувальны, але не такі, каб успрымаўся як спякота. Звычайна гэты перыяд цягнецца ў нашай рэспубліцы адзін-два тыдні і наступае, як правіла, пасля асенняга раўнадзенства. 23 верасня Зямля паварочваецца да Сонца паўднёвым паўшар'ем. Сонца, перасякаючы нябесны экватар і пераходзячы ў паўднёвую сферу, пасылае развітальнае цяпло на зямлю. Дасягнуўшы нагрэтай за лета зямлі, гэтая плынь цяпла і дапамагае ёй некаторы час процістаяць наступаючаму холаду.

Шмат ёсць легенд аб павуцінні, што лятае ў пару бабінага лета. Вось адна з іх. Маці Ісуса Хрыста Марыя спрабавала сшыць перададзеную ёй вешчунамі пялёнку для сына. Але як толькі яна дакранулася іголкай да пялёнкі, вецер вырваў нітку і панёс. І колькі ні спрабавала Святая Марыя працягваць нітку з іголкай праз пялёнку, яна вырывалася і адлятала.

А праз некалькі гадоў, калі Святая Марыя плакала каля распятага на крыжы Сына, ніткі, якія калісьці вырваліся з яе рук, сабраліся з усіх канцоў свету і, абвіўшыся вакол крыжа, утварылі выратавальную мяккую пялёнку. З-пад яе пачуўся голас: "Мама, мама, навошта ты імкнешся зменшыць мае пакуты! Ніткі Прасвятой Дзевы, пакіньце мяне і ідзіце закрываць гора чалавечае". З таго часу і носяцца (лятаюць) гэтыя ніткі па ўсяму свету з усходу на захад восенню пасля 21 верасня (дня нараджэння Багародзіцы Марыі). Кожны з нас бачыў іх — гэта асенняе павуцінне.

А. МАКАРЭВІЧ.

ЮНЫЯ ЭКОЛАГІ БЕЛАРУСІ ВЯРНУЛІСЯ З ЗАМЕЖЖА

## У ГАСЦЯХ У БЕРАНДЗЕЯ



Сёння ўжо відавочна, што ў людзей няма больш важнай задачы, чым захаванне жыцця на Зямлі. Але любіць прыроду на словах — гэтага яшчэ мала, патрэбна канкрэтная работа па захаванню навакольнага асяроддзя: паветра, вады, глебы, раслiннасці і жывёлаў.

Як ператварыць пасіўных назіральнікаў прыроды ў актыўных яе абаронцаў? Пачынаць, вядома, трэба з дзяцінства — вучыць захапляцца яе прыгажосцю, а таксама разумець яе законы. І што яшчэ вельмі важна — умець праводзіць найпрасцейшыя назіранні ў прыродзе, што для дзяцей з'яўляецца аднachасова і адпачынкам, і навучаннем, і экалагічным выхаваннем.

Група юных эколагаў Беларускага рэспубліканскага экалагічнага цэнтра вучняў (з кіраўніком Е.Касцюковіч) вярнуліся з Ніжняга Ноўгарада, са збору юных эколагаў, які праводзіўся за сто кіламетраў на поўнач ад Ніжняга Ноўгарада, у лесе таёжнага тыпу, на беразе прыгожай ракі Узола. У экалагер, змена "Зялёны парус", на адпачынак сабралася 150 дзяцей з самога Ніжняга Ноўгарада і вобласці, з Беларусі і Калугі. Дзеці тут не толькі адпачывалі, але і праводзілі эколага-біялагічныя даследаванні непасрэдна на прыродзе, пад кіраўніцтвам вучоных кафедры экалогіі Ніжнегародскага універсітэта. Два тыдні тут працавалі лабараторыі: тэрыялогія, арніталогія, герпеталогія, гідрабіялогія і іншыя.

Дзеці са сваімі навуковымі кіраўнікамі адпраўляліся па экалагічных сцяжынках, збіралі навуковы матэрыял у розных біяцэнозах лесу, на балотах, палях, на беразе ракі Узола. Вучоныя дзяліліся з дзецьмі сваімі ведамі і вопытам, праводзілі гутаркі, аказвалі метадычную дапамогу ў зборы матэрыялу і афармленні навуковых дзённікаў.

Мне, як спецялісту заолагу-тэрыёлагу, давялося кіраваць лекторыем, г. зн. штодзённа раніцай і вечарам у лекторый прыходзілі дзеці кожнага атрада, а іх было шэсць, і слухалі з паказам каляровых слайдаў мае расказы на тэмы: "Звяры беларускіх лясоў", "Жывыя радары", "Мова жывёлаў" і інш.

Вучоныя здзіўляліся ведам дзяцей, іх настойліваму жаданню пранікнуць у таямніцы прыроды. Юныя эколагі Беларусі дзяліліся сваім вопытам правядзення даследаванняў у Беларускім рэспубліканскім экалагічным цэнтры вучняў, дзе яны займаюцца ўжо шмат гадоў.

Аляксандр КУРСКОЎ.



### ПАПРАЎКА

Ідучы за іншымі беларускімі газетамі, якія, відаць, клюнулі на сенсацыйны загаловак "Яшчэ адзін Шушкевіч", "Голас Радзімы" таксама папаўся на гэтую прынаду. У заметцы пад такім загалоўкам, якая была змешчана ў N 35 "Голасу Радзімы", спасылаючыся на "Кур"ер Віленскі", расказваецца пра Вандаліна Шушкевіча, імя якога нібыта забыта на Беларусі. На самай справе гаворка пра Вандаліна Шукевіча. Яго прозвішча занесена ў БелСЭ. Там можна прачытаць пра нашага славутага земляка.

Просім прабачэння ў чытачоў.

## СПОРТ

Тры медалі рознай вартасці прывёз са старажытнага рускага горада Мурама віцябчанін Уладзімір Бакуноў. Студэнт чацвёртага курса факультэта фізвыхавання Віцебскага педінстытута прыняў удзел у шостым міжнародным чэмпіянаце веласіпеда "Пелетон".

Самы вялікі поспех выпаў на яго долю ў індывідуальнай гонцы на 118 кіламетраў, дзе Уладзімір стаў чэмпіёнам і атрымаў залаты медаль. Два бронзавыя медалі беларускі студэнт заваяваў на марафонскай дыстанцыі 176,6 кіламетра і ў гонцы на хуткасць.



НА ЗДЫМКУ: Уладзімір БАКУНОЎ з узнагародамі.

Фота А. ХІТРОВА.

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:
220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.



Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск".
Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку".
Індэкс 63854. Зак.1307.
Падпісана да друку 13. 09.1993 г.